# КРЫВІЯ

**Выданьне беларускае дыяспары ў Чэхіі**

**№27 Верасень - Лістапад 2012**

**Культурна-асьветніцкая газэта**


## ЗЬМЕСТ



## Беларуская Чэхія

### Беларусы Прагі падтрымалі ўкраінцаў

Прага -24 жніўня 2012. Праскія беларусы бралі ўдзел у акцыі за ўкраінскую мову й незалежнасьць Украіны. Акцыя была праведзеная ля помніку Тараса Шаўчэнкі.

Беларусы прэзэнтавалі арыгінальны едкі вулічны плакат з надпісам:

**“Забілі беларускую мову - бярэмся за ўкраінскую,”** які асуджае каланіяльную палітыку Масквы ў дачыненьні да Беларусі й Украіны.



Плакат малявала сп-ня Ніна Аксёнчык (паэтэса, мастачка) паводля ідэі свайго мужа, сп. Уладзіміра Малашчанкі.

Украінская сэкцыя радыя “Свабоды” ужо падала інфармацыю пра беларусаў Прагі, якія выказалі салідарнасьць з украінцамі, і відэа, дзе сп-ня Аксёнчык прадстаўляе плакат і чытае ўрывак са сваёй паэмы ў падтрымку украінцам.



# БАЙКОТ парляманцкіх “выбараў”

Каля двух дзясяткаў беларусаў сабраліся каля амбасады Беларусі ў Празе. Прысутныя разгарнулі плякаты з заклікамі да байкоту і ў падтрымку палітвязьняў, а таксама зладзілі імправізаваную выставу сатырычных малюнкаў на тэму выбараў. Сам будынак амбасады ачапілі супрацоўнікі праскай паліцыі. Яны правяралі і перапісвалі дадзеныя ўдзельнікаў акцыі, а таксама журналістаў. Мы налічылі 12 машынаў паліцыі, якія дзяжурылі побач з будынкам. Некаторыя паліцыянты дзяжурылі з сабакамі. З вокан амбасады удзельнікаў пікету здымалі на відэакамэру.

Арганізатары акцыі спрабавалі перадаць супрацоўнікам амбасады пэтыцыю з патрабаваньнем вызваліць палітвязьняў, пакараць вінаватых у парушэньні правоў чалавека ў Беларусі, а таксама гарантаваць беларусам свабодныя выбары. Аднак супрацоўнікі амбасады прымаць дакумэнт адмовіліся.



Лідэр Асацыяцыі за мадэрнізацыю, зарэгістраванай у Чэхіі, **Аляксей Францкевіч** разам з журналістам Радыё Свабода прайшлі ў памяшканьне, дзе знаходзіцца выбарчы ўчастак. Нас сустрэў 1-ы сакратар пасольства Валянцін Шпак, які прадэманстраваў передвыбарчы стэнд, пратакол датэрміновага галасаваньня, але здымкі забараніў.

Паводле пратаколу, у датэрміновым галасаваньні ўдзельнічаў 21 выбарнік з 62 зарэгістраваных.

Паводле незалежных сьведкаў, якія дзяжурылі каля пасольства, да 13:00 ніводзін чалавек, акрамя супрацоўнікаў пасольства, , не галасаваў.




# Ня веру, што гэта немагчыма...

Адпраўляюся ў падарожжа ў Польшчу. Перада мной – сустрэча з беларускімі хрысьціянамі, якую чакаю зь вельмі вялікім нецярпеньнем! Сябры з найдаражэйшых, беларускія патрыёты, людзі, якія размаўляюць па-беларуску. Апошнім разам я зь імі была два гады таму. Тады я сама беларускую яшчэ ня ведала і я была зачаравана асяродзьдзем, у якім я ня чула рускую мову. Цяпер ужо беларускую трохі ведаю, таму зь нецярплівасьцю чакаю, што я змагу яе палепшыць. У радасным прадчуваньні дарога праходзіць хутка, і я тут.

Вітаньне, абдымкі, радасьць, абед ... І затым першая агульная малітва. Мае вочы засьціліся сьлязьмі, калі пасьля такога доўгага часу чую беларускую малітву. Мы разам чытаем Біблію па-беларуску, а затым гаворым пра тое, што мы чыталі. Мне вельмі падабаецца магчымасьць гаварыць на гэтай прыгожай мове!

Але што я чую? Мне здаецца, што ў словах маіх сяброў раз-пораз чутно рускае слова. Вывучаючы беларускую ў чэскім асяродзьдзі, я не абцяжараная рускім уплывам. Маё вуха, падрыхтаванае мовай прафесійных журналістаў Белсату і іншых СМІ, адчувальнае да русізмаў. Але, у гэтым выпадку, мне гэта напэўна толькі здаецца? У рэшце рэшт, гэтыя мае сябры зьяўляюцца „найбольш беларускімі“ беларусамі, якіх я ведаю! Аднак, празь некаторы час у мяне ёсьць нават цэлы спіс “падазроных” слоў. Падчас перапынку ўжо не магу вытрымаць, і пытаюся: “Ці гэта сапраўды правільна па-беларуску? Ці гэта ня русізм?” На жаль, падазрэньне зьмяняецца ва ўпэўненасьць. Так, гэта русізмы. Паступова адкрываю, што мова маіх беларускіх “прыкладаў” русізмамі цалкам працятая.

У сэрца прабіраецца расчараваньне і смутак. Апошнім часам я сустракала беларусаў, якія самі расейскамоўныя, толькі са мной імкнуліся размаўляць па-беларуску. Хутчэй за ўсё, мы вучылі адзін аднаго. Дык дзе я магу пачуць чыстую беларускую мову, калі нават тут, сярод гэтых людзей, няма такой магчымасьці? Яны ж лічаць сябе захавальнікамі беларускіх каштоўнасьцяў у нацыі. Заахвочваюць іншых да здаровага патрыятызму і выкарыстаньня беларускай мовы. Яны робяць для гэтага вельмі шмат, некаторыя ахвяруюць практычна ўсім. Адмаўляюцца пасылаць сваіх дзяцей у расейскамоўныя летнікі, каб не сапсаваць іхнюю беларускую мову, скардзяцца на ўзровень мовы ў беларускамоўных школах, крытыкуюць ўзровень роднай мовы ў дзяржаўных СМІ... А тады яны самі адкрываюць свае вусны – і да сваёй каханай, Богам дадзенай роднай мовы дамешваюць так шмат замежных слоў.

Але больш за ўсё мяне шакуюць іх тлумачэньні. Быццам бы, яны тут на вакацыях, таму і не павінны зважаць. Мабыць, я павінна зразумець, што ёсьць розьніца паміж беларускай літаратурнай і гутарковай мовай, і ў гутарковай цяжка ўтрымаць яе чысьціню, калі ты знаходзішся ў рускамоўным асяродзьдзі. Нешта мне гэта нагадвае... Некаторыя беларускую ня ведаюць і апраўдаюцца тым, што ў рускамоўным асяродзьдзі па-беларуску гаварыць нельга. Іншыя ведаюць беларускую вельмі добра, аднак апраўдваюцца гэтак жа. Чамусьці я ў гэтым ня бачу вялікай розьніцы...

Душа ўва мне крычыць: НЕ, НЕ, НЕ! Сябры! Хто, калі ня вы, хто беларускую мову сапраўды добра ведаеце, павінен ахоўваць яе чысьціню – ня важна, ці то на працы, ці то падчас адпачынку? Хто, калі не вы, павінен вучыць сваіх

дзяцей (і замежнікаў, якія прагнуць навучаньня) правільнай чыстай мове, вольнай ад пабочных дамешак? Хто, калі ня вы можа разбурыць міф пра тое, што ў рускамоўным асяродзьдзі нельга гаварыць (чыста) па-беларуску? Я з такім нецярпеньнем чакала, што сярод вас удасканалю сваю мову! Але, прабачце мне, я нарэшце пачала турбавацца тым, што, калі б я была з вамі даўжэй, я б заразілася вашымі моўнымі парокамі!

Жадаю вам і сабе, каб вы кінулі выклік вашаму камфорту і сталі больш сачыць за сваім ротам. Каб быць сапраўднымі ўзорамі. Каб сваіх дзяцей і людзей вакол вас вучыць сапраўднай беларускай мове. Дык, як вы, у рэшце рэшт, хочаце пераканаць сваіх рускамоўных блізкіх, што яны могуць пакінуць сваю звычку гаварыць на рускай і могуць прыняць рашэньне пачаць гаварыць па-беларуску? Як хочаце іх пераканаць, калі вы самі ня хочаце вырашыць кінуць сваю звычку гаварыць на “размоўнай беларускай”, поўнай рускіх дамешак, і ня хочаце прыняць рашэньне пачаць гаварыць правільна па-беларуску? У адрозьненьне ад тых, хто яшчэ не гавораць па-беларуску наагул, у вас усё прасьцей. Таму што, вы, калі зьвернеце ўвагу, добра ведаеце, дзе робіце памылкі. Вам сапраўды патрэбна толькі жаданьне і невялікае намаганьне. Я малюся за вас, каб вы пачалі жадаць. Насамрэч, Бог учыняе ў людзях і хаценьне і дзеяньне. Я хачу верыць, што, калі мы сустрэнемся ў наступны раз, вашу прыгожаю мову ніякія “іншаземныя захопнікі” ўжо псаваць ня будуць.

PS:

У сваім нядаўным артыкуле я зьвярталася да беларускамоўных беларусаў, імкнучыся захапіць іх пачаць карыстацца моваў продкаў. Сёньня ж я зьвяртаюся да гэтай даволі невялікай групы беларусаў, што родную мову добра ведаюць і карыстаюцца ёй штодзень. У той час як для першых важна пачаць гаварыць у любы спасоб і не саромецца рабіць памылкі ў мове, у другіх важна, каб яны гаварылі на правільнай мове, даючы прыклад іншым.

Прашу прабачэньня, калі я кагосьці пакрыўдзіла. Як перакладчык і карэктар, я імкнуся пілнаваць чысьціню чэскай мовы, абараняючы яе ад англіцызмаў, якія ў апошнія гады нашую прыгожаю мову атакуюць зь нябывалай сілай. Таму для мяне натуральна, каб рабіць тое ж самае таксама зь іншай мовай, якую я люблю.

Беларускамоўная, аднак “чыстапародная” чэшка

Сьвятлана Вранова, 24.8.2012

**ВІНШУЕМ
з НАРОДЗІНАМІ!**

**у ЛІСТАПАДЗЕ:**

**Адася Калюту**

**у СЬНЕЖНІ:**

**Макса Шчура**
**Кірыла Касьцяна**
**Алеся Судлянкова**
**Натальлю Алейнікаву**

# НАВІНЫ з Бацькаўшчыны

## Замест Леніна — Корсак, Буйніцкі, Драздовіч, Ластоўскі

У Глыбокім, падчас сьвяткаваньня Дня беларускага пісьменства і друку адчынілі алею помнікаў славутым землякам. Яшчэ некалькі месяцаў таму на гэтым месцы — на Плошчы 17 верасьня — стаяў помнік Леніну, які ўрэшце зьнесьлі.

Урачыстае адкрыцьцё помнікаў адбылося 2 верасьня. У імпрэзе ўзяў удзел старшыня Віцебскага аблвыканкаму Аляксандар Косінец, які ў гэты дзень прамаўляў па-беларуску.




*Помнік Вацлаву Ластоўскаму*

Цяпер глыбачане маюць адмысловую алею помнікаў славутым земляком — гэта помнікі фундатару глыбоцкіх касьцёлаў Язэпу Корсаку, пачынальніку беларускага тэатру Ігнату Буйніцкаму, мастаку Язэпу Драздовічу, выбітнаму дзеячу беларускага адраджэньня, гісторыку, этнографу Вацлаву Ластоўскаму. Усяго ўсталявана 8 помнікаў — яшчэ ў Глыбокім вырашана ўшанаваць памяць стваральніка сучаснага іўрыту Элізэра Бэн-Ягуды, удзельніка вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, літаратара Алеся Дубровіча, авіяканструктара Паўла Сухога, Героя Савецкага Саюзу, генерала-летэнанта Пятра Казлова.

Алея помнікаў славутым земляко

м — гэта супольны праект Міністэрства культуры і Глыбоцкага райвыканкаму. Бюсты выраблялiся ў Віцебску на камбінаце «Мастацтва», аўтары — віцебскія і менскія скульптары, сярод якіх Аляксандар Гвозьдзікаў, Валеры Магучы, Азат Тарасян і Іван Казак.

# 8 верасьня 1992 тысячы вайскоўцаў на плошчы Незалежнасьці прысягнулі на вернасьць Беларусі

***З чаго ўсё пачалося?***

—Пасьля здабыцьця краінай незалежнасьці атрымлівалася так: навабранцы, прыходзячы на ваенную службу, прымалі зноў зацьверджаную прысягу на вернасьць Беларусі на беларускай мове. Аднак афіцэры, у адрозьненьне ад салдатаў і сяржантаў, заставаліся пад прысягай Савецкаму Саюзу.

Нонсэнс! — распавядае ўдзельнік знакавай падзеі, адзін зь лідараў «Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў» Алесь Станкевіч. — Гэта значыць, афіцэры маральна і юрыдычна ня несьлі адказнасьці. Калі б, ня дай бог, паўстала якая сітуацыя, яны маглі сказаць: я ня прысягаў Беларусі, таму абараняць яе ня буду.

Актывісты «Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў» (БЗВ) выходзілі з ініцыятывай правядзеньня прысягі на Вярхоўны Савет, Савет міністраў. Неаднаразова сустракаліся з высокімі начальнікамі ў Міністэрстве абароны.

— Спачатку яны былі ня супраць правядзеньня прысягі, але ўсё адкладалі яе і адкладалі. Казалі: ды яшчэ ня час, яшчэ ня тая сітуацыя, — успамінае Алесь Станкевіч.

Ідэяй правядзеньня прысягі афіцэраў на вернасьць Беларусі была захоплена і група дэпутатаў у парламенце.

— Ініцыятыва прыняцьця прысягі належала ня толькі «беларускаму згуртаваньню вайскоўцаў». Яна таксама належала апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, —сьведчыць Валерый Костка, які зьяўляўся на той момант маёрам КДБ. — Наагул нельга сказаць, што БЗВ існавала само па сабе, а БНФ само па сабе. Ня было б БНФ, ня было б і БЗВ.

Не дамогшыся водгуку ў Мінабароны і ўрадзе, ініцыятары правядзеньня прысягі вырашылі дзейнічаць самі.

Набліжалася дата, якая станавілася ў Беларусі ўсё больш вядомай.

8 верасьня 1514 пад Воршай войскі Вялікага княства Літоўскага разграмілі ўтрая большую армію Маскоўскага княства. На 8 верасьня 1992 году, дзень беларускай вайсковай славы, і было прызначана правядзеньне прысягі патрыётамі.

У аргкамітэт ўвайшло кіраўніцтва БЗВ і Народнага фронту. Распаўсюджваліся ўлёткі, тэма шырока асьвятлялася ў прэсе. Мастакі з суполкі «Пагоня» вырабілі харугвы, партрэты гістарычных асобаў, буйны тэкст прысягі і вялізны герб «Пагоня».

Урачыстая цырымонія была прызначаная на другую палову дня ў нядзелю.

— На прысягу ехалі з усіх куткоў Беларусі, Салігорска, Барысава Маладзечна… Быў патрыятычны ўздым, — успамінае Валерый Костка. — Я ўзначальваў тады Маладзечанскую структуру БЗВ. Мы, па-мойму, замовілі два аўтобусы, у Мінск адправілася ня менш за 50 чалавек.

Плошча Незалежнасьці была запоўненая сонцам і народам. У асноўным гэта былі людзі, якія прайшлі вайсковую службу — хто радавым, хто сяржантам, хто афіцэрам, распавядае Валерый Костка.

На сцэне, усталяванай насупраць педінстытуту, знаходзіліся заснавальнік і кіраўнік БЗВ Мікалай Статкевіч, лідар БНФ Зянон Пазьняк, пісьменнік Васіль Быкаў.

Урачыста выйшлі ў вайсковай форме афіцэры, якія працягвалі службу, і дэпутаты Вярхоўнага Савета. Афіцэраў узначальваў камандзір брыгады спецназу палкоўнік Уладзімір Барадач, дэпутатаў — Сяргей Навумчык. Сталі ў шэраг, сталі тварам да прысутных.

Пазьняк выступіў з прамовай, у якой распавёў, чаму праводзіцца прысяга. Мікалай Статкевіч зачытаў яе тэкст. Яго словы паўтаралі ўсе, што стаялі на плошчы.




— Гэта было вельмі прыгожае відовішча. Да гэтага часу стаіць у памяці, — успамінае Валерый Костка.

Затым лідар БЗВ прайшоў перад шэрагам ў дваццаць зь лішнім чалавек і кожны расьпісаўся ў прыняцьці прысягі на афіцыйным бланку.

Да сталіцы пацягнуліся з пашпартамі тысячы вайскоўцаў запасу, якія жадалі подпісам засьведчыць сваё прыняцьце прысягі на вернасьць Беларусі. Гучаў Паланэз Агінскага — людзі спадзяваліся, што ён стане гімнам краіны, які на той момант яшчэ зацьверджаны не быў.

Выступілі музыканты, паэты, гісторыкі.

— Мы ўсе адчулі, што мы адна нацыя, адзін народ, — кажа Валерый Костка.

Падзея 8 верасьня 1992 г. прымусіла ўлады правесьці афіцыйнае прыняцьце прысягі усімі афіцэрамі. 31 сьнежня 1992 году армейцы, міліцыянты, супрацоўнікі спецслужбаў прынялі прысягу на беларускай мове пад бел-чырвона-белым сьцягам і гербам «Пагоня».

Ужо праз год у палітычным жыцьці Беларусі пачаўся адкат у мінулае.

— З тых афіцэраў, хто прымаў прысягу 8 верасня, ніхто не застаўся на вайсковай службе, — распавядае Валерый Костка. — Усіх «сышлі».

Яшчэ празь некалькі гадоў прадстаўнікі спецслужбаў і МУС, якія прымалі прысягу пад бел-чырвона-белым сьцягам, пачнуць паляваньне на людзей з нацыянальнай сімволікай.

Да 20-годзьдзя знакавае падзеі яго ўдзельнікі ня змогуць сабрацца разам. Хтосьці, як падпалкоўнік Мікалай Бірукоў, не дажыве, хтосьці, як Уладзімір Барадач, вымушаны будзе эміграваць. А лідэр БЗВ Мікалай Статкевіч і зусім апынецца за кратамі. Але іх ўчынак у верасьні 92-га ня сьцерці з памяці.

**Крыніца:** *Наша Ніва*, 8 верасьня 2012

# Алесь Пушкін: Адсьвяткавалі Аршанскую перамогу на рэгіянальным узроўні

На полі Аршанскай бітвы невядомыя скралі вянкі, кветкі і бел-чырвона-белы сьцяг, усталяваны на ўзбочыне каля вёскі Гацькаўшчына. 8-га верасьня, у Дзень беларускай вайсковай славы, традыцыйна на Аршанскім полі збіраюцца людзі, каб прыгадаць падзеі 1514 году, калі войска Вялікага Княства Літоўскага разбіла ўтрая большае па колькасьці войска Маскоўскай дзяржавы. Пра тое, як сёлета адзначылі на Аршанскім полі гэтую падзею, распавёў адзін з удзельнікаў, мастак Алесь Пушкін, вяртаючыся з Воршы:

- Самае галоўнае – памяць. А сьвяткавалі мы на рэгіянальным, мясцовым узроўні. Мы сабраліся каля крыжа, памаліліся, затым памянулі нашых загіблых ваяроў, іхную вайсковую славу і абмеркавалі планы на будучыню, як на наступны год нам адсьвяткаваць. На наступны год мы з мастакамі суполкі «Пагоня» зробім пленэр. У 2014-ы нашай перамозе будзе 500 год.

Алесь Пушкін распавёў, што само поле было ўзаранае, відавочна, такім чынам улады спрабавалі перашкодзіць нешматлікім удзельнікам акцыі ў правядзеньні запланаванага мерапрыемства. Акрамя таго, ва ўсіх прысутных міліцыянты перапісалі асабістыя дадзеныя.

**Крыніца:** Яна Запольская, Радыё Рацыя, 9 верасьня 2012

---

# Статкевіч растлумачыў сваю адмову пісаць прашэнне аб памілаваньні

“Зараз ня самы горшы час у нашым жыцьці. Я нават сказаў бы, што адзін з самых высокіх,” – напісаў палітзьняволены кандыдат у прэзідэнты на былых выбарах Мікалай Статкевіч у лісьце да сваёй жонкі Марыны Адамовіч. У ім ён патлумачыў сваю маральную пазіцыю, якая прымушае яго і іншых палітзьняволеных рашуча адмаўляцца пісаць прашэньні аб памілаваньні. “Бязумоўна, вельмі хочацца волі,” – цытуе Марына Адамовіч ліст мужа:



- Наўрад ці я здолеў бы зрабіць болей для абароны чалавечай годнасьці зараз на волі, чым тут, на гэтым “полі бітвы” ў 10 квадратных метраў. Можа гучыць і занадта пафасна, але часамі тут было вельмі падобна да сапраўднага поля бітвы.

“Хлопцы вельмі добра разумеюць, што яны робяць, дзеля чаго трымаюцца, чаму не падпісваюць прашэньні. Яны вядуць сваю, я вельмі спадзяюся, пераможную вайну. І зараз там, за кратамі, яны бароняць усіх нас значна больш, чым мы іх тут, на так званай волі,” - кажа Марына Адамовіч. За ўдзел у плошчы 2010 года Мікалай Статкевіч асуджаны на 6 гадоў зьняволення па артыкуле аб масавых беспарадках. Вінаватым падчас суда ён сябе ня прызнаў. Спачатку адбываў пакараньне ў Шклоўскай калоніі №19, а потым быў пераведзены на больш жорсткі турэмны рэжым і зараз знаходзіцца ў турме №4 Магілёва.

**Крыніца:** Радыё Рацыя, 9 верасьня 2012

---

# Нараджэньне сымбалю

*Гісторыя з палётам швэдаў над Беларусьсю і іх «бамбардзіроўкай» краіны плюшавымі мядзьведзікамі можа мець адно нечаканае, але значнае наступства. Значныя наступствы, як правіла, якраз тыя, якія нечаканыя.Але сьпярша — крыху гісторыі.*

У 1902 годзе прэзыдэнт ЗША **Тэадор Рузвэльт** пашкадаваў на паляваньні мядзьведзя, загнанага паляўнічай камандай з сабакамі і прывязанага да дрэва. Рузвэльта запрасілі адстрэліць здабычу. Ён адмовіўся зрабіць гэта сам, матывуючы тым, што гэта «неспартова», але распарадзіўся мядзьведзя прыстрэліць, каб спыніць яго пакуты. Гісторыя трапіла ў газэтныя карыкатуры, але з часам была адаптаваная па кан’юнктурных меркаваньнях, і мядзьведзь пераўтварыўся ў маленькае сымпатычнае медзьведзяня.

Дэталі гісторыі з часам забыліся, засталося галоўнае — Тэдзі (прастамоўная вэрсія імя Рузвэльта) адмовіўся страляць у медзьведзяня. Адна з карыкатураў трапілася на вочы жонцы Морыса Мітчама, уладальніка крамы цацак. Яна і пашыла мядзьведзяня, падобнага на мядзьведзя з карыкатуры. Ён быў усталяваны на вітрыне крамы і названы «Медзведзяня Тэдзі», у гонар прэзыдэнта.

Посьпех цацкі быў аглушальны. Ён стаў своеасаблівым брэндам Теадора Рузвэльта — памяцьцю пра ягоны годны ўчынак, часткова — адлюстраваньнем ягонай мажнай постаці. Хаця і годнасьць была ў пэўным сэнсе спрэчная, ды і характар у Рузвэльта, аўтара выказваньня пра вялікую дубінку, быў далёка ня плюшавы, але склеілася, засацыявалася, сымбалі жывуць сваім жыцьцём. Ну, а распаўсюд навінкі быў такім, што ў ангельскай мове і няма іншага паняцьця для пазначэньня цацачнага мядзьведзя, акрамя **teddybear** — тэдзімядзьведзь, у адно слова.

Менавіта так пазначаныя мішкі, якіх швэды скідалі на Беларусь, у іх відэастужцы.

Сымбалі жывуць сваім жыцьцём. Ужо зьявілася маса жартаў, карыкатур, падколак, анэкдотаў, зьвязаных з мядзьведжым дэсантам. Але ў аснове — ўчынак, які выклікае сымпатыю, эмацыйную атракцыю. Да таго ж вобраз выдатна ўпісаны ў беларускую культуру. Медзьведзь — зьвер зразумела ня свойскі, але свой, не бегемот нейкі. І хаця ў прыродзе гэтая істота даволі бязьлітасная, ў фальклёры, ў казках — хутчэй станоўчая, добрая і бясхітрасная. А асацыятыўны шэраг, на якім ўжо пачалі гуляць шматлікія блогеры, фэйсбукеры, твітаране і ўкантактнікі — савецкі алімпійскі Міша, Віні-Пух, папярэдні расейскі прэзыдэнт і безьліч іншых.




І што? Ну ўсяго тое, што швэды скінулі беларусам зь нябёсаў сымбаль іх пратэсту. На што не пацягнуў прыдуманы ў свой час джынс, усе спробы наконт бульбы, васілька і іншага. Не цягнула, асацыяцыяў малавата, ўчынку за сымбалем не было. Што якому народу патрапіць — гэта таямніца. Але крытэр таго, што патрапіла — менавіта тое, што мы назіраем зараз: вірусны рэклямны распаўсюд сымбалю, кожны спажывец — ён жа і рэкляміст, які нясе пасланьне далей. У вас, напрыклад, ёсьць сумневы, што ўжо на бліжэйшых маніфэстацыях апазыцыі мядзьведзь зойме больш чым пачэснае месца? Гэтага мала? Ну як сказаць. Як нехта казаў, паловай посьпеху польскі супраціў 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя быў абавязаны ўдалай назьве — «Салідарнасьць». Дарэчы, італьянскі фашысцкі сымбаль быў таксама дакладным патрапленьнем з букетам асацыятыўных нюансаў — зьвязка прутоў, у адзінстве — сіла, пагроза для ворагаў і адначасна старажытнарымская ліктарская сякера — сымбаль законнасьці. Сымбаль — не гарантыя посьпеху, але амаль усе пасьпяховыя рэвалюцыі такі сымбаль мелі — ружа ў грузінаў, аранж ва ўкраінцаў.

**Крыніца:** Радыё Свабода, Юры Дракахруст, 6 ліпеня 2012

# Слава героям
## для Зьмітра Д. і для Маладога фронту на дзень нараджэньня

Аўторак 28.08, вечар. Я бягу дадому і пасьпешліва адчыняю інтэрнэт. Застаецца апошні пробліск надзеі, што, магчыма... Не. На жаль, цуду не адбылося. Дзіма сапраўды атрымаў яшчэ адзін год турмы. Цяжка апісаць эмоцыі, якія ахопліваюць мяне. Смутак? Шкадаваньне? Лютасьць? Гнеў? Бездапаможнасьць? Адчай? Страх? Спагада? Пытаньні. Бясконцыя пытаньні. Чаму? Госпадзе, чаму? Ты ж можаш, то ЧАМУ? Як доўга яшчэ? Чаму дазваляеш гэта? Які ў гэтым сэнс? Калі ж гэта скончыцца?

Малюся, душачы сьлёзы, намагаюся знайсьці адказ, і ў маёй галаве пачынаюць гучаць словы чэскай пралетарскай песьні з 50-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Песьня адлюстроўвае рашучасьць мужных рабочых у барацьбе за сацыялістычную ідэю, даўно яе ў нас ніхто не спявае (ой, як добра!). Але словы першых двух вершаў -- як калі б былі напісаны для сёньняшніх змагароў за свабоду Беларусі!

Засьпявайма песьню, браты,
як належыць свабодным мужчынам,
нават калі б яны былі закаваныя ў турме.
У мужнай песьні, у мужным слове
цямніца не павінна спыніць цябе,
нават калі б цябе катавалі.

Мужны Дзіма. Ён адчувае пакуты, якія большасьць з нас ня можа нават аддалена сабе ўявіць, але аднак яго песьня ня спыняецца. Яна гучыць са сьценаў турмы, дадаючы мужнасьці тым, хто на волі. Пранікае малым акенцам карцэра і кліча. Кліча да народу:

Хлопцы, уверх на палубу,
нават калі б мы плылі на пагібель,
наш сьцяг не патоне ніколі!
Нават калі б мы ўсе загінулі,
новыя ваяры падымуцца,
(бел-)чырвона(-белы) сьцяг будзе разгортвацца.

Калі амаль два гады таму практычна ўсе лідары Маладога фронту апынуліся ў турме, я з занепакоенасьцю пыталася сяброў: *"Што цяпер будзе з Маладым фронтам? Ці гэта яго ня зьнішчыць?"* Тады я атрымала адказ, які я ў гэты момант ня цалкам зразумела: *"Не, Малады фронт нельга знішчыць! Малады фронт – гэта ня людзі. Малады фронт – гэта ідэя, якую ня спыніць!"* Сёньня я гэты адказ ужо разумею. На працягу гэтых амаль двух гадоў паўсталі новыя змагары, моцныя духам, поўныя рашучасьці ахвяраваць усім. Калі я бачу, як шмат новых імёнаў за гэты час зьявілася, Змітровыя пакуты, магчыма, атрымліваюць пэўны сумны сэнс: мы зьяўляемся сведкамі таго, як у Маладым фронце растуць новыя героі, моцныя, як магутныя дубы. Цалкам магчыма, што яны б у бясьпечным цені моцнага лідэра ніколі не выраслі ...

На самай справе, тут ёсьць яшчэ адна аналогія. Гэта мне бліжэй, чым прыклад пралетарскага руху. Дзьве тысячы гадоў таму яўрэі ўкрыжавалі Ісуса Хрыста, лічачы, што гэтак яны могуць зьнішчыць распаўсюджаньне хрысьціянскага руху. Адбылося дакладна адваротнае. Іх радасьць зь перамогі ня была доўгаю. Хрыстос уваскрос, і разам зь ім нарадзіліся сотні, тысячы, дзясяткі тысяч новых Хрыстоў – Царква. Хрысьціянскую ідэю і Царкву не магчыма зьнішчыць, таму што яна зьяўляецца носьбітам Божай праўды. Беларускія ўлады зачынілі Дашкевіча, з нецярплівасьцю чакаючы падаўленьня распаўсюду руху вольнадумства Маладога фронту. Але дакладна і адваротнае! Паўстала мноства новых лідэраў. Беларускай нацыянальнай ідэі, прадстаўленай сярод іншых рухам Маладога фронту, ніхто ня можа зьнішчыць, таму што яна зьяўляецца носьбітам праўды і надзеі Божай.

Дзякуй табе, Дзіма. Можа быць, ты сам ня ведаў, што цябе чакае, калі ты казаў пра тое, што для свабоды трэба прыносіць ахвяры. Бог выбраў цябе, ведаючы, што ты здольны вытрымаць. Таму ёсьць і будзе з табой, дае табе і дасьць табе сілу, каб ты мог ісьці да канца. Мы ўдзячныя і застанемся ўдзячнымі табе, мы з табою і застанемся з табою. Мы молімся і ня скончым маліцца і будзем падтрымліваць цябе да тых часоў, колькі гэта будзе патрэбна. Трымайся, адважны браце, твая ахвяра не дарэмная!

*„Цябе зьняла спакуса ня іншая, як чалавечая; верны-ж Бог, які не дапусьціць табе быць спакушаным больш, чым маеш сілу, але з спакусай зробіць і выхад, каб ты мог перанесьці"* (1 Кар 10:13).

Сьвятлана В., 29.8.2012

## 114 kandydataŭ padpisali zvarot u abaronu Daškievіča

## Яны патрабуюць тэрмінова вызваліць лідара «Маладога фронту» ды іншых палітвязьняў.

З 11 верасьня прысуд Зьмітру Дашкевічу, якому дадалі год зьняволення нібыта за непадпарадкаваньне, уступіў у сілу. Актывіст ня прызнаваў законнасьць прысуду і ня стаў яго абскарджваць. Сёньня быў распаўсюджаны зварот 114 кандыдатаў у дэпутаты, якія паставілі свае подпісы пад патрабаваньнем тэрмінова вызваліць Зьмітра Дашкевіча ды іншых палітвязьняў. Сярод іншага ў звароце сказана:

«Перасьледаваьні, якія зазнае Дашкевіч, носяць выразна палітычны характар і супярэчаць міжнародным абавязаньням Беларусі, у прыватнасьці, па недапушчэньні жорсткага і бесчалавечнага абыходжаньня і пакараньня, — упэўненыя беларускія і міжнародныя праваабаронцы.

Мы, кандыдаты ў дэпутаты палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Беларусі, прадстаўляем розныя дэмакратычныя партыі і рухі. У нас могуць быць свае погляды на будучыню нашай краіны, розныя стратэгіі ўдзелу ў выбарчай кампаніі. Але ўсіх нас аб'ядноўвае імкненьне дамагчыся таго, каб Беларусь зрабілася дэмакратычнай краінай без паліцэйскага перасьледу іншадумцаў, без палітычных зьняволеных. Таму мы заяўляем:

Свабоду Зьмітру Дашкевічу!

Свабоду палітвязьням! Свабоду Мікалаю Статкевічу, Мікалаю Аўтуховічу, Паўлу Севярынцу, Алесю Бяляцкаму, Эдуарду Лобаву, Сяргею Каваленку, Васілю Парфянкову, Ігару Аліневічу, Аляксандру Францкевічу, Мікалаю Дзядку, Яўгену Васьковічу, Паўлу Сырамалотаву, Арцёму Пракапенку!»

Зварот падпісалі 114 кандыдатаў у дэпутаты, сярод іх вядомыя палітыкі і грамадзкія дзеячы Рыгор Кастусёў, Аляксей Янукевіч, Валерый Ухналёў, Анатоль Лябедзька, Юрый Хашчавацкі, Леў Марголін, Станіслаў Багданкевіч, Мікалай Казлоў ды іншыя.

**Крыніца:** *Наша Ніва*, 11 верасьня 2012

# Беларусь у сьвеце

## Сурвіла – Барадачу: Паўнамоцтвы Рады БНР не падлягаюць падзелу

Нагодай для артыкулу зьявілася публікацыя былога камандзіра спэцназу, палкоўніка Ўладзімера Барадача на сайце «Беларускі партызан». У сваім артыкуле ён кажа, што «У Эўропе і ЗША існуюць дзясяткі дэмакратычных офісаў, арганізацый, і Беларускіх дамоў, частка зь якіх зьяўляецца нічым іншым, як дублюючым адзін аднаго клюбамі па дробных інтарэсах. Інтарэсы дробныя, але сумы, якія выдаткоўваюцца на іх жыцьцяздольнасьць, вельмі значныя». Барадач, які заявіў пра стварэньне Рады нацыянальнага адраджэньня, зьвяртаецца да Рады БНР «вызначыцца з задачамі, якія зьяўляюцца прэрагатывай Рады. Больш за тое, мы прапануем Радзе ўзяць на сябе адказнасьць за дзейнасьць апазыцыі ў замежжы, структураваць яе, сыстэматызаваць яе працу».

Свой артыкул Уладзімер Барадач скончыў прыгадваньнем ліста да Рады БНР, зьмест якога, аднак, не раскрывае ні ён, ні Івонка Сурвіла ў сваім артыкуле-адказе.

Заявіўшы, што падзяляе шэраг выкладзеных Барадачом у ягоным артыкуле меркаваньняў («хаця зь іншымі і паспрачалася б»), Івонка Сурвіла вызначае яго як «чалавека, адданага беларускай справе не адзін дзень і не адзін год».

Нагадаўшы, што «на працягу дзесяцігодзьдзяў Рада БНР заяўляла на міжнароднай арэне пра сувэрэнныя правы беларускага народа на ўласную дзяржаву», а таксама пра адмову перадаць у пачатку 1990-х свае паўнамоцтвы, чаго дамагаўся ўрад Кебіча, старшыня Рады БНР распавядае пра сёньняшнюю дзейнасьць Рады. Пры гэтым падкрэсьлівае, што «галоўнае змаганьне за Беларусь адбываецца ў самой Беларусі – сіламі тых актывістаў, якія вядуць штодзённую працу і вельмі часта плацяць за гэта сваёй свабодай, як Алесь Бяляцкі, Зьміцер Дашкевіч, Сяргей Каваленка, Павал Севярынец, Мікола Статкевіч».

Івонка Сурвіла паведамляе, што «Рада БНР не карыстаецца ніякай фінансавай падтрымкай ад заходніх дзяржаў ці арганізацый», а таксама ня мае дачыненьня да разьмеркаваньня грантаў.

«Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прадстаўляе сувэрэнныя правы беларускага народа на грунце Акту 25 сакавіка, а не якую-небудзь партыю ці групу партый. Рада БНР зьяўляецца адзіным, непадзельным органам, цалкам адказным за спаўненьне свайго мандату», – піша Івонка Сурвіла.

Рада БНР можа перадаць свае паўнамоцтвы толькі свабодна абранаму воргану ўлады ў Беларусі – калі будзе перакананая, што гэты ворган у стане гарантаваць захаваньне незалежнасьці Беларусі. Такім чынам, паўнамоцтвы і легітымнасьць Рады не падлягаюць ніякаму частковаму падзелу і частковай передачы. Іншымі словамі, Рада БНР ня можа перадаць нейкую частку сваіх статутных функцыяў – воргану ўлады, партыі ці групе асобаў.

Пры гэтым, Рада можа прадаставіць сваю эгіду – напрыклад, для вялікай кааліцыі сілаў, якія абапіраюцца на ідэалы Акту 25 сакавіка, калі такая кааліцыя паўстане з самых палітычных сілаў у Беларусі. Гэтаксама, Рада можа стварыць экспэртныя групы для выпрацоўкі пэўных

прапаноў і рашэньняў ў пэўных галінах, прыцягваючы да гэтага адмыслоўцаў як зь Беларусі, гэтак і з дыяспары» – піша Івонка Сурвіла.

Заявіўшы, што ня ўмешваецца ва ўнутраныя міжпартыйныя канфлікты, старшыня Рады БНР паведаміла, што Рада БНР адкрытая «да супрацоўніцтва – як з арганізацыямі ў Беларусі, гэтак і з тымі, якія створаныя ў замежжы» і выказала намер найбліжэйшым часам «абмеркаваць гэта з Уладзімерам Барадачом і зь іншымі патрыётамі Беларусі».

**Крыніца:** Радыё Свабода, 11 верасьня 2012

# Мы -- не экстрэмісты

Калёна сяброў Іркуцкага Таварыства Беларускай культуры імя Яна Чэрскага прыняла ўдзел у гарадзкім карнавале, які адбыўся ў Дзень гораду. Чаму было так важна прайсьціся па вуліцах Іркуцку пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, распавядае Алег Рудакоў, старшыня таварыства беларускай культуры ў Іркуцку:

«У Іркуцку тры гады таму ўзьнікла раптоўна такая традыцыя — у дзень гораду праводзіць карнавальнае шэсьце. І ў мінулым годзе мы ўпяршыню ў гэтым прынялі ўдзел. Але тады ў нас было недзе 40 чалавек, а цяпер у два разы болей мы сабралі людзей. Гэта нашыя актывісты, маладыя ўдзельнікі з Таварыства Беларускай Культуры, з моладзевага клюбу „Крывічы“. Апроч нас, з нацыянальных аб’яднаньняў удзельнічаў толькі бурацкі цэнтар і ўкраінскі, але ў іх літаральна некалькі чалавек выйшла. Для нас было вельмі важна прыняць удзел у гэтым карнавальным шэсьці, таму што супраць нас вядзецца справа аб экстрэмізьме. Я лічу, што гэта непаразуменьне, але, магчыма, сьледчыя органы лічаць інакш». Расейскія праваахоўныя органы ў Іркуцку распачалі супраць 26-гадовага тамтэйшага беларуса Аляксея Кухты справу аб экстрэмізьме. Яму выставілі абвінавачаньне паводле артыкулу «Ўзбуджэньне нянавісьці альбо варожасьці, а таксама зьнявага чалавечай годнасьці». Паводле інфармацыі расейскіх праваахоўных органаў, ён выкладваў «экстрэмісцкія фатаграфіі і відэа» на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы. Падчасператрусу ў ягонай кватэры былі знойдзеныя «нашыўкі з нацысцкай сымболікай і літаратура экстрэмісцкага зьместу». Алег Рудакоў кажа, што хлопец зрабіў гэта «праз глупства, а сам ён даволі дабрадушны і мяккацелы чалавек». Да таго ж здымкі гэтыя былі разьмешчаныя ў 2008 годзе, а ў таварыства Кухта прыйшоў у 2009-м.Але ўсе абвінавачаньні ён прызнаў і цяпер знаходзіцца пад падпіскай пра нявыезд.

Алег Рудакоў: «Нам, бязумоўна, вельмі шкада, што ён так зрабіў. Ён быў шараговы сябра, прыходзіў да нас толькі некалькі разоў. Але чамусьці сьледчыя органы зрабілі выснову, што, можа, мы ўсе такія там. Прыйшлі да нас у сядзібу, зрабілі ператрус. Вельмі шмат задавалі пытаньняў наконт нашай эмблемы, наконт нашых сьцягоў бел-чырвона-белых, наконт „Пагоні“. Я ім даводзіў, што гэта нашыя гістарычныя сымбалі, што мы палітыкай не займаемся, знаходзімся вельмі далёка ад Беларусі. Увогуле, мне было цікава: чаму вы пра гэта пытаецеся, калі да нас з боку Беларусі пра гэта няма пытаньняў? Мы грамадзяне Расеі, жывем у Іркуцку, ну, выкарыстоўваем мы гістарычныя сымбалі — якая розьніца? Каб у нас, напрыклад, была эмблема „мядзьведзь“ — гэта было б добра ці не?»

Алег Рудакоў кажа, што цяпер справа атрымала «другое дыханьне». Аляксей Кухта застаецца пад падпіскай пра нявыезд, а на допыты выклікаюць сяброў таварыства:

«Самае большае — хоць гэтага ж ня можа быць! Гэта няпраўда! — але калі яны ўсё ж нацягнуць і скажуць, што мы экстрэмісцкае аб’яднаньне, то мне можа быць і пазбаўленьне волі як кіраўніку. Дзьве нашыя арганізацыі — Таварыства Беларускай Культуры і моладзевы клюб „Крывічы“ — могуць зачыніць. Але я спадзяюся, што гэтага ня будзе. Мы ведаем, што гэта ўсё хлусьня, мы экстрэмісцкімі справамі не займаемся, мы сапраўды патрыёты сваёй гістарычнай радзімы. І гэтым трэба ганарыцца. Мы грамадзяне Расеі, і мы не парушаем закон Расеі. Мы не займаемся палітыкай, ня ўдзельнічаем у палітычных акцыях. Што тут такога злачыннага ў нашай дзейнасьці?! Таму для нас важна, што мы з годнасьцю прайшліся па цэнтральнай вуліцы Іркуцку, паказалі нашы традыцыйныя беларускія танцы, гучала музыка старадаўняя беларуская. Паказалі гораду Іркуцку беларускую прысутнасьць і еднасьць».

**http://www.svaboda.org/** чэрвень 2012

## Новыя Кнігі, прэса

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

Памятаеце кнігу «Краіна Беларусь»? Такі вялізны фаліянт, унікальная кніга ў цудоўнай паліграфіі, з выявамі соцень артэфактаў? Друкаваная ў Славаччыне, яна хутка прадалася. Дык вось, маем працяг.

Тыя самыя аўтары, пісьменьнік Уладзімір Арлоў і мастак Зміцер Герасімовіч, выдалі працяг: «Вялікае Княства Літоўскае» — 400 старонак гісторыі і блізу 2000 ілюстрацый, некаторыя зь якіх беларускія чытачы ніколі ня бачылі.

Шыкоўна выдадзенае «Вялікае княства» — сапраўдны даведнік па часох ВКЛ і ня толькі.

Кніга пачынаецца матар’яламі аб суіснаваньні балтаў і славянаў на беларускіх землях, а сканчаецца сёньняшнім днём беларусаў у Літве.

«Чытача чакае сустрэча з выдатнымі гістарычнымі асобамі: палітыкамі, военачальнікамі, асьветнікамі. — пішуць аўтары. — Кніга знаёміць з жыцьцём і побытам, вайсковымі перамогамі і культурнымі дасягненьнямі продкаў. На аснове гістарычных фактаў даводзіцца, што найменьні «Літва» і «ліцьвіны» на працягу некалькіх стагоддзяў былі назовамі Беларусі і беларусаў».

Арлоў і Герасімовіч абяцаюць, што кніга зможа зламаць пэўныя гістарычныя стэрэатыпы, а некаторыя зьвесткі стануць для чытачоў сапраўднай сэнсацыяй.

ВКЛ было на кароткі час адноўлена ў 1812 годзе, за вяртаньне дзяржаўнасьці змагаліся паўстанцы ў 1831 годзе. У пачатку ХХ стагодзьдзя беларускія нацыянальныя дзеячы на чале з Антонам Луцкевічам выступілі з ідэяй стварэньня канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага.

Ці шмат хто ведае, што 24 верасьня 1939 года ў актавай залі Віленскай беларускай гімназіі адбылася ўрачыстасьць з нагоды далучэньня Вільні да Беларусі «на векі вякоў», дзе прысланыя з Мінску савецкія кіраўнікі выступалі разам з

віленскімі беларускімі дзеячамі?

Ці пра тое, што пасьля выгнаньня з тэрыторыі СССР нацысцкіх акупантаў, узьнiклі пэўныя ўмовы для вяртаньня гораду ў склад БССР, у сувязі з чым Літоўская ўрадавая дэлегацыя ездзіла на прыём да Сталіна? Натуральна, ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да сучаснай Літвы мы ня маем…»




**Siabry, heta prosta cudoŭnyja staronki!**

Chto choča praviľna karystacca svajej pryhožaj movaj, abaviazkova tudy zachodźcie! Usie skladanaści movy tam pakazanyja, vieľmi prosta, hrafična, daścipna... Śviatlana

**Кніжка “дзіцячая заМова”** -- 100 вясёлых малюнкаў пра цяжкасьці беларускай мовы! Замовіць можна на: **http://labadzenka.by/?tag=dzicyachaya-zamova&paged=1**




## Беларусы Эўразьвязу

### Ліпеньскія будні ў ТБК Літвы

Сябры ТБК на чарговую імпрэзу 28-га ліпеня запрасілі гасьцей: старшыню Кансэрватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ Зянона Пазьняка і намесніка КХП БНФ Сяргея Папкова, сяброў зь мінскага царкоўнага брацтва Трох віленскіх пакутнікаў на чале са спадаром Анатолем Астапенкам, а таксама добрых сваіх сяброў-украінскі сямейны хор «Світлиця».

Імпрэза была прысьвечана 130-м угодкам ад дня народзінаў Янкі Купалы(7 ліпеня 1882, фальварак Вязынка - 28 чэрвяня 1942, Масква) і 15-ай гадавіне ад дня сьмерці Лявона Луцкевіча (13 сакавіка1922, Вільня – 28 ліпеня1997, Вільня).

Пра жыцьцё, творчасць і грамадзкую дзейнасьць Янкі Купалы(сапр.-Іван Дамінікавіч Луцэвіч) з прамовай выступіў Васіль Акуневіч. Былі ўзгаданы ўсе факты і даты біяграфіі, агучаны назовы ўсіх літаратурных твораў і іх тэматыка, таксама назовы ўсіх сродкаў масавай інфармацыі зь якімі Янка Купала супрацоўнічаў і якімі ён кіраваўся. Класік беларускае літаратуры, паэт, драматург, публіцыст Я.Купала разам зь Я. Коласам - заснавальнікі новае беларускае літаратуры і беларускае літаратурнае мовы. Я.Купала пакінуў багацейшую спадчыну. Пяць паэтычных зборнікаў: «Жалейка»(1908), «Гусьляр»(1910), «Шляхам жыцьця»(1913), «Спадчына»(1922),» Ад сэрца»(1940).18 паэмаў для нацыянальнага тэатру. У тым ліку: «Адвечная песьня»(1908), «Сон на кургане»(1910), «На папасе»(1913), «Паўлінка»(1912), драма «Раскіданае гняздо»(1913), трагікамедыя «Тутэйшыя»(1922), пра незалежнасьць «Безназоўнае»(1924). Багатая літаратурная спадчына Янкі Купалы як перакладчыка. Ён перакладаў з украінскай, польскай, расейскай, францускай і нямецкай моваў.Усяго пераклаў 92 творы 36 аўтараў. Творы Купалы перакладзены на 117 моваў сьвету.

На працягу ўсяго свайго сьвядомага жыцьця Янка Купала думаў, разважаў пра беднасны стан і абездоленасьць беларусаў, пра прычыны гэтага становішча. Пераканаўся ў неабходнасці перамен, у неабходнасьці барацьбы за лепшую долю і за незалежнасьць. У сваіх творах заклікаў землякоў змагацца за гэтыя мэты. Царскаму ўраду, і пазней савецкаму ўраду, гэта было няпрымальным. Таму літаратурныя творы Янкі Купалы забараняліся, выданьні канфіскоўваліся. Аўтар і выдавецтвы прыцягваліся да адказнасьці,падвяргаліся рэпрэсіям. Так, пачынаючы з першага зборніка «Жалейка»(1908), наклад якога быў канфіскаваны ў 1909, забароне падлягалі верш «Зваяваным»(1910), артыкул у Нашай Ніве(НН) «Думкі»(1914), вершы «Перад будучыняй» і «Пазвалі вас...»(1922). У гэтых двух вершах Купала выказаў сваё стаўленьне да бальшавікоў і заклапочанасьць бягучай сытуацыяй. Абодва творы былі забароненыя. Першы нумар толькі што заснаванага часопісу «Адраджэньне», у якім быў надрукаваны верш «Перад будучыняй», быў канфіскаваны. Паказальнай у гэтым сэнсе была доля трагікамедыі «Тутэйшыя».Напісаны твор у 1922 , сцэнічнае жыцьцё атрымаў у БДТ-1 у 1926. Але хутка п'еса была зьнята з рэпэртуару як твор нацыяналістычны. Толькі ў 1982 пра п'есу ўспомніў Магілёўскі абласны драматычны тэатр

(рэжысёр В. Масьлюк). Нядоўгім было сцэнічнае жыцьцё п'есы і тут: пасля паказу ў Мінску яе зьнялі з рэпэртуару. У 1988 твор Купалы быў надрукававы ў 9-м нумары часопісу «Полымя», а з 1990 ідзе на сцэне нацыянальнага тэатру імя Я. Купалы (рэжысёр М. Пінігін). Зараз п'еса «Тутэйшыя» ўведзена ў школьныя праграмы, да яе зьвяртаюцца шматлікія літаратураведы і публіцысты.

Ня выпадкова ў Янкі Купалы такі трагічны лёс.Ён шмат разоў выклікаўся на допыты па справе контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызваленьня Беларусі», якая ў рэальнасці ня існавала.20 лістапада 1930 году, ня вытрымаўшы зьдзекаў, Купала робіць спробу самагубства, але застаецца жывы. Лежачы ў шпіталі, канчаткова зломлены, падпісвае г. зв. «Адкрыты ліст Я. Купалы» з адрачэньнем ад нацыянальнай ідэі.Творчасьць Купалы 30-х гадоў складаецца з прасавецкіх вершаў ды артыкулаў, пазбаўленых мастацкае вартасьці, апроч цыклу вершаў 1935, створаных у вёсцы Ляўкі («Сонцу», «Лён», «Дарогі» і іншыя).

4 чэрвеня 1942 Купала быў раптоўна выкліканы з Татарстану (быў у эвакуацыі) ў Маскву тэлеграмай ад старшыні Саўнаркаму БССР. 28 чэрвяня ў Маскве Купала трагічна загінуў, упаўшы з лесьвіцы ў гатэлі «Масква». Паэт быў пахаваны ў Маскве на Ваганькаўскіх могілках, а праз 20 гадоў яго прах быў перавезены ў Беларусь. Цяпер магіла Янкі Купалы знаходзіцца на Вайсковых могілках у Мінску, побач з магілай Якуба Коласа. Тамсама знаходзіцца і магіла маці паэта Бянігны Іванаўны, якая памерла ў акупаваным Мінску, перажыўшы сына на два дні.

.Удзячны беларускі народ ушанаваў Я Купалу. Дзейнічаюць: «Дзяржаўны літаратурны музей Я. Купалы», «Дзяржаўная прэмія імя Я. Купалы», «Міжнародны фонд Я.Купалы», «Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы», «Гарадзенскі дзяржаўны ўнівэрсітэт імя Я. Купалы» і др.У Вільні яго імем названа вуліца, на доме рэдакцыі НН намаганьнямі ТБК замацавана шыльда.

Завяршыла тэму Янкі Купалы на імпрэзе спадарыня Тацьцяна Райнене.Яна дэклямавала два паэтычныя творы. Удзельнікі імпрэзы шчырым рукаплясканьнем выказалі сваю падзяку народнаму паэту і спадарыні Тацьцяне.

Сваімі успамінамі пра Лявона Луцкевіча, сына прэм’ер-міністра БНР Антона Луцкевіча, беларускага грамадзкага і культурнага дзеяча, педагога, мемуарыста, заснавальніка нашага Таварыства Беларускай Культуры ў Літве выступіў Андрусь Старавойтаў. Спадар Андрусь, цяпер рэдактар і вядучы тыднёвай беларускамоўнай перадачы на дзяржаўным радыё Літвы, ўпяршыню пачуў голас дзядзькі Лявона па радыё, калі жыў у Маладзечне.У тых перадачах Лявона Луцкевіча зьдзіўляла і захапляла валоданьне беларускаю моваю, клопат пра беларускую спадчыну ў Вільні. Тады Андрусь паставіў сабе за мэту абавязкова пазнаёміцца зь Лявонам. Што і адбылося ў Вільні. Добрыя стасункі паміж імі доўжыліся да апошніх дзён жыцьця Лявона.

Лявон, таксама як яго бацька, як тысячы лепшых сыноў Беларусі, зьведаў пераслед і рэпрэсіі з боку савецкай дзяржавы. За беларускую дзейнасьць быў асуджаны, адбываў пакараньне на Калыме, пасля хрушчоўскай адлігі вярнуўся ў Вільню. Лявон Луцкевіч быў адным зь першых, хто пачаў адраджаць беларускае культурнае жыцьцё напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя.Па яго ініцыятыве і актыўнымі намаганьнямі, разам з другімі беларусамі-віленчукамі, была заснавана беларуская суполка ТБК, беларускамоўная школа, беларуская катэдра ва ўнівэрсітэце, беларускамоўныя перадачы на літоўскім тэлебачаньні і радыё. Сваю любоў да беларускай Вільні Лявон Луцкевіч выказаў сваёй кнігай «Вандроўкі па Вільні», выдадзенай ТБК. Яна пабачыла сьвет ужо пасля смерці аўтара. Кніга стала каштоўнейшым экскурсаводам па Вільні. Гэта багацейшы набытак беларусаў за час новага адраджэньня.Беларусы ганарацца сваім патрыётам, дастойным прадаўжальнікам справы Івана і Антона Луцкевічаў.

Завяршылі імпрэзу сябры-украінцы. Сям’я Рамана і Аксаны з дочкаю Іраю і мамай Аксаны-Ірынаю Ільніцкаю. Украінскія народныя песьні яны сьпявалі ў знак салідарнасьці зь беларусамі, каторыя клапоцяцца пра беларускую мову, пра нацыянальную дзяржаву. Пасля завершаньня імпрэзы прысутныя не разышліся а вялі дыскусію пра мову, пра нацыянальную сьвядомасць народаў суседзяў- беларусаў і ўкраінцаў. Было цікава і карысна.

Па просьбе прысутных на імпрэзе з прамоваю выступіў Зянон Пазьняк. Спадар Зянон падзяліўся сваёю заклапочанасьцю нарастаючым уплывам Кітая ў Беларусі.З ласкі антыбеларускага рэжыму дзясяткі тысячаў кітайскага насельніцтва ўжо атабарыліся на нашай зямлі. Рэжым плянуе назаўсёды атабарыць у Беларусі сотні тысячаў чужынцаў — больш за мільён. Сусьветная практыка паказвае, што калі на нейкай някітайскай тэрыторыі гэтай расы становіцца сотні тысячаў і больш за мільён, то пішы прапала — гэтая тэрыторыя становіцца кітайскай. Мясцовы народ або раствараецца ў жоўтым моры, або уцякае з родных мясьцін. Як вядома, нам, беларусам, уцякаць няма куды, у нас няма нейкай іншай зямлі, акрамя той, якую нам даў у валадараньне Бог. Кітайскае нашэсьце ўжо разгортваецца па Беларусі. Пакуль у некалькіх яе зонах, якія можна вызначыць як кітайскія плацдармы, зь якіх пачнецца шырокамаштабны кітайскі захоп нашай краіны і пагроза ўсёй Эўропе. Калі іх стане абяцаны Лукашэнкам мільён, то кітайцаў ня спыніш. Яны папруць на Беларусь, вытоптваючы ўсё на сваім шляху. Яны упэўнены, што беларусы ня будуць супраціўляцца і бараніць сваю зямлю.

Ёсць паведамленьні аб выпадках калі кітайцы, арганізаванымі групамі да 100 чалавек, заходзяць у калектыўныя сады і зьбіраюць садавіну і гародніну без дазволу. Міліцыя ўлікаў ня знойдзе, бо ўсё зьедзена.Ды і не стараецца міліцыя знайсці парушальнікаў. Падобна на тое, што ёсць установка для міліцыі паводзіць сябе зь імі так, каб не нашкодзіць добрым адносінам з новым стратэгічным партнёрам-Кітаем. Пакуль міліцыя разьбіраецца з гэтай групай, на іншым канцы дачнай зоны эфэкт саранчы арганізоўваюць яшчэ некалькі “малых групаў”. Змагацца з гэтым немагчыма, міліцыі ўжо катастрафічна не хапае .Гаспадаром садовых участкаў давядзецца арганізоўваць самаабарону. Трэба спыніць нашэсьце кітайцаў цяпер, пакуль ня позна. Калі мы гэтага ня зробім, нас чакае няволя і нацыянальная трагедыя.

Яшчэ спадар Зянон прэзентаваў удзельнікам імпрэзы дзьве новыя свае кніжкі, надрукаваныя ў 2012-м годзе.У суаўтарстве з Валерым Буйвалам падрыхтавана і выдадзена кніга «Абарона Курапатаў. Народны мэмарыял». У кнізе апісана змаганьне за Курапаты і за абарону Курапатаў. Гэта найперш барацьба з КГБ, з агентурай КГБ, і са спадкаемцамі тых што тварылі генацыд. Толькі ведаючы і разумеючы гэта можна зразумець сэнс і зьмест падзеяў што разгортваюцца вакол Курапатаў. Другая кніга «Добрая фатаграфія». У ёй

веды пра усе навейшыя дасягненьні навукі і прмысловасьці ў галіне фатаграфіі. Гэта дапаможнік на беларускай мове для прафесыяналаў і аматараў фатаграфіі.

## Вандроўка па Віленшчыне

Працягваючы традыцыю, сябры ТБК зрабілі вандроўку па Віленшчыне. 29-га ліпеня на двух аутамабілях наведалі: Яшуны, Малыя Салечнікі, Вялікія Салечнікі, Дзевянішкі, Каменку, Тургелі, разваліны Паўлавай Рэспублікі, Рудаміна. Гэтым разам нам пашанцавала, бо за экскурсавода з намі быў навуковец, археолаг Зянон Пазьняк. Яго малая радзіма, мястэчка Суботнікі Гарадзенскай вобл.знаходзіцца за 13км. ад Дзевянішак.

У мястэчку Яшуны наведалі сямейныя могілкі Балінскіх. Могілкі ад 1830 да гэтых дзён захаваліся і добра дагледжаны - мураваная агарожа, каванага жалеза вароты ўвесь час замкнёныя. Празь іх відаць багатыя помнікі. З шыльды каля варот даведаліся хто тут пахаваны. Гісторык, публіцыст, гаспадар Яшун Міхал Балінскі(1794-1864). Яго сын Ян Балінскі(1824-1902)-заснавальнік навуковай псіхіатрыі у Расеі, прафесар Пецярбургскай вайсковай медычнай акадэміі. Сябра Міхала, рэктар Віленскага універсытэту, прфесар астраноміі і матэматыкі, філосаф Ян Снядэцкі(1756-1830). Наведалі сядзіба-паркавы комплекс Балінскіх. Яшуны вядомыя ад 1402. Ад 1819 іх гаспадар Ян Балінскі. Ад таго часу Яшуны сталі важным цэнтрам культуры.У палацы была бібліятэка. Тут гасцявалі прафесары з Вільні, вядомыя паэты і грамадзкія дзеячы, сярод іх Адам Міцкевіч.У наш час сядзіба-паркавы комплес у запусьценьні.Але ў такім стане, што яго можна адрастаўраваць. У мястэчку каля 1800 жыхароў, староства, 3 сярэднія школы.

У вёсцы Малыя Салечнікі мы былі сведкамі актыўнага ўдзелу прыхажан пад час імшы.У дзеравяным касцеле не маглі памесціцца ўсе жадаючыя, таму людзі стаялі на ганку. Людзі маладыя, зь дзецьмі.

У горадзе Вялікія Салечнікі, на акраіне з боку Вільні, першае што заўважаеш, гэта 6-ці метровая, прыгожая, белая капліца, - ўзьведзеная тут у 18-м стагоддзі.У цэнтры гораду - новы, вялікі помнік нашаму нацыянальнаму герою Кастусю Каліноўскаму. Прыемна адзначыць тое, што помнік устаноўлены па ініцыятыве і намаганнямі мясцовай суполкі беларусаў. Наведалі касьцёл. І зноў пабачылі імшу ў перапоўненым касцеле. І тут, як і ў Малых Салечніках, прыхажане стаялі на ганку касцёла і на вуліцы ўздоўж ганку. Маладыя сем'і, зь дзецьмі. Каля касьцёла - прыгожы помнік Адаму Міцкевічу. Тут 2-га лістапада 1821 паэт упяршыню бачыў наш абрад Дзяды. Адзін з вядомейшых твораў паэта так і названы «Дзяды». Салечнікі вядомыя ад 1311.Пасля ўваходу Літвы ў склад СССР у 1940 Салечнікі разам з Друскенікамі і Адуцішкамі былі падараваны Літве за яе прыхільнасьць саветам. Цяпер у Салечніках каля 6400 жыхароў, 72 працнты зь іх сябе лічаць палякамі.

Мястэчка Дзевянішкі нас сустрэла цішынёю. Касцёл у той час быў зачынены. Дзевянішкі ўзгадваюцца ад1385. Цяпер тут каля 900 жыхароў. Цэнтр староства. За 6км. ад мястэчка мяжа з нашай Бацькаўшчынаю.

Вялікая вёска Тургелі(660 жых.) ўражвае вялізным, мураваным у стылі неабароко, касцёлам, узьведзеным у 1837, перабудованым у 1900-1909гг.

З Тургелей павярнулі на поўдзень, да ракі Мерачанка. Тут, на яе беразе, нам адкрыліся руіны мураваных палацаў гістарычна вядомай Паўлавай Рэспублікі.Усе мы, за выняткам Зянона Пазьняка, іх бачылі ўпяршыню. Але болей за ўсіх іх цяперашні выгляд зьдзівіў і парадаваў Пазьняка. Справа ў тым, што ўся тэрыторыя вакол руін цяпер пазначана будаўнічай СТОП стужкай. З блізу мы ўбачылі, што тут распачаліся будаўнічыя работы. Гэта прыемная навіна для Зянона і ўсіх руплівых краязнаўцаў. Гісторыя Паўлавай Рэспублікі вядома і каштоўна тым, што гэта была найбольш радыкальная сялянская рэформа ў 18-м стагодзьдзі. Павел Бжастоўскі, ксёндз у Тургелях, на тэрыторыі свайго маёнтку(усяго78валокаў каля 1640 гектараў) увёў самакіраваньне.Ад 1769 да 1795 Рэспублікай кіраваў прэзыдэнт(сам гаспадар маёнтку) і сялянскі сойм. Замест *лажа* Павел ўвёў *чынш*. Даў сялянам волю. Яго сяляне без абмежаваньняў маглі распараджацца сваім багацьцем, займацца рамёсламі і гандлем. Адчыніў школу.Сялян вучылі чытаць, пісаць, лічыць, розным рамёствам (вырабляць капялюшы, плясьці з лазы, вязаць і др.) У выніку вольнай працы павялічыліся ўраджаі. Даход гаспадара маёнтку вырас. Сяляне сталі ахвотна клапаціцца сваім жыльлём і бытам. Рэспубліка мела свае грошы, свае войска.У 1784 Рэспубліка была прызнана вялікім князем ВКЛ, каралём Польшы Станіславам Панятоўскім.Рэспубліка распалася калі Павел-прэзыдэнт зразумеў, што пасьля 3-цяга падзелу Рэчы Паспалітай Расея забярэ і яго маёнтак Таму разьмяняў маёнтак на маёнтак у Саксоніі. Новы гаспадар адмяніў *чынш* і ўвёў *лаж.*

Вёска Рудаміна – апошняя ў нашым падарожжы. Ад яе да Вільні 12км..Тут таксама цішыня. Прыемна палюбавацца як добраупарадкаваны і дагледжаны дзеравяны касьцёл. Мушу адзначыць, што такія пачуцьці былі ўсюды на маршруце падарожжа, дзе мы наведвалі касцёлы. Яшчэ ў Рудаміна ёсьць царква дзеравяная і разваліны муравanae царквы.Ад 1377 Рудаміна вядомая як горад ВКЛ. Цяпер вялікая вёска каля 4300 жых.

Апроч прыемных пачуцьцяў пад час гэтай вандроўкі, ўдзельнікі зьведалі крыўду і сум. Ведаючы, што Віленскі край у ранейшыя вякі быў беларускім краем і бачачы, якое актыўнае грамадзкае жыцьцё тут цяпер вядуць палякі, разумееш, што для беларусаў гэты край ужо страчаны.Крыўдна, але прыходзіцца прызнаць, што наша бацькаўшчына Беларусь ня была здольнай адстойваць свае нацыянальныя інтарэсы ў часы СССР, тым больш цяпер, стаўшы незалежнай дзяржавай, РБ нашага нацыянальнага інтарэсу тут ня бачыць. Сумна робіцца, калі чуеш ад жыхароў Віленскага краю пытанні-папрокі: «чаму мы цяпер ня чуем па радыё і ня бачым па тэлевізару беларускамоўных перадачаў зь Беларусі. Раней, за савецкім часам, такія перадачы былі. І нам была магчымасьць чуць нашу родную мову. Часьцей моваю карысталіся, больш адчувалі сябе беларусамі. Польшча такога падарунку і ў сьне ня сніла.Малайцы палякі. Падарункам ад РБ скарысталіся паспяхова.

Зянон Пазняк па дарозе з Рудаміна у Вільню зьвярнуў увагу ўдзельнікаў вандроўкі на неабходнасьць весьці навуковае даследаваньне беларускае гістарычнае спадчыны тут, у краі. Ён прапанаваў маладым сябром Таварыства ўзяцца за гэту важную для Беларусі справу.Нам нельга чакаць, калі гэтым займуцца дзяржаўныя ўстановы РБ. Пакуль на Бацькаўшчыне не адбудуцца палітычныя, нацыянальна-дэмакратычныя перамены, клапаціцца пра яе нацыянальныя інтарэсы павінна грамадзтва.

Вільня,5.08.2012г. , в.а. старшыні ТБК Васіль Акуневіч

# Ajciec Nadsan: U bielarusaŭ byla zaŭsiody palityčnaja pasyŭnaść i dziakujučy tamu majem takuju sytuacyju ŭ krajinie

*Ajciec Aliaksandr Nadsan — liehiendarnaja postać bielaruskaj dyjaspary. U 1944 jon apynuŭsia na čužynie i z 1946 hodu žyvie ŭ Vialikaj Brytanii.*

*Ajciec Nadsan byŭ adnym iz zasnavaľnikaŭ Zadzinočańnia Bielarusaŭ u Vialikaj Brytaniji. Jon-ža aŭtar koľki vydańniaŭ na temu historyji Bielarusi. U 1971 h. ajciec Nadsan staŭ dyrektaram Bielaruskaj Biblijateki Franciška Skaryny u Londanie, najbolšaj bielaruskaj biblijateki za miažoju. Ad 1981 h. uznačaľvaje Bielaruskuju Katalickuju Misiju ŭ Vialikaj Brytaniji, a ŭ kancy 1980 hod byŭ naznačany Apostaľskim Vizytataram dlia bielaruskich hreka-katalickich viernikaŭ za miažoju.*



*Ajciec Aliaksandr Nadsan*

*U svajim intervju dlia časapisu* ***Belarusian Review*** *ajciec Nadsan analizuje pytańni bielaruskaj nacyjanaľnaj identyčnaści, relihii j movy. Taksama apisvaje dačynieńni miž bielaruskaj dyjasparaj i krajinaj jaje pražyvańnia — Vialikaj Brytanijaj.*

**BR**: *Ci moža relihija adyhrać kansalidujučuju roliu dlia bielarusaŭ jak unutry krajiny, tak i ŭ dyjaspary?*

**a.AN:** Ja-b byŭ vieľmi aściarožny ŭ takich acenkach, bo relihija najpierš heta adnosiny čalavieka da Boha, i tut patrebna šanavać vybar kožnaha čalavieka. Tamu relihija nia jość spravaj nacyjanaľnaj. Inakš kažučy, viera ŭ Boha – jość takoj dlia ŭsich narodaŭ i ŭ hramadzie Božych dziaciej pavinna być miesca jim usim. Kali Boh zachacieŭ, kab byli bielarusy, značyć jany majuć prava na isnavańnie i nichto nia moža zabaranić jim być takimi. A voś carkva pavinna vučyć liudziej šanavać kožnaha čalavieka, bačyć jinšych takimi, jak jany jość. Carkva musić ladzić ducho- ŭnuju spravu ŭ najboľš dastupny sposab na rodnaj movie, šanujučy ŭ taki sposab toje, što daŭ hetym liudziam Boh. Tamu carkva ni ŭ jakim razie nie pavinna pierakonvać ludziej u tym, što jany jinšyja, čymsia jość nasamreč (np., nie namaŭliać bielarusaŭ być rasiejcami ci paliakami).

**BR:** *Jak Vy aceńvajecie dačynieńni pamiž dziaržavaj i dyjasparaj na prykladzie bielarusaŭ u Vialikaj Brytaniji?*

**a.AN:** Ciapier hetych dačynieńniaŭ praktyčna niama, choć na pačatku 1990-ch sytuacyja byla zusim jinšaja. Tady da nas źviartalisia pa infarmacyju, pra toje chto takija bielarusy. My dapamahali naladžvać hetyja kantakty, raspaŭsiudžvać anhlamoŭnuju infarmacyju pra Bielaruś. Šmat emihracyja dapamahla i čarnobyľskim dzieciam. Ja asabista zrabiŭ kalia 15 rejsaŭ u Bielaruś ź liekami dla chvorych dzietak. Alie takaja padtrymka išla taksama ad bielarusaŭ z Paŭnočnaj Ameryki. Kali ž Lukašenka pryjšoŭ da ŭlady, kantakty pastupova źmianšalisia i takoj ščyľnaj supracy dyjaspary i dziaržavy ŭžo nia bylo. Mahčyma jon by i chacieŭ praciahvać supracu z dyjasparaj, ale na svajich umovach z tym, kab dyjaspara byla advakatam jahonaj palityki. Mocnym nehatyŭnym faktaram dla našaj supracy stala taksama kuľturnickaja palityka bielaruskich uladaŭ, najpierš rusifikacyja i zniščańnie ŭsiaho bielaruskaha.

A naahul, dyjaspara jość svojeasablivym hramadztvam. Žyvučy ŭ čužym asiarodździ jany chočuć zastacca bielarusami. Jany nia majuć, i nia musiać mieć uplyvaŭ na toje, što adbyvajecca ŭ Bielarusi. Ale pry najaŭnaści narmaľnych dačynieńniaŭ pamiž dyjasparaj i dziaržavaj, dyjaspara moža šmat u čym pamahčy – i finansava, i praz svaje kantakty. Možna zhadać pryklad našych susiedziaŭ paliakaŭ – jich dyjaspary pačynajučy z 19st žyli dlia Polščy, prapahandujučy krajinu i pamahajučy joj. Naahul, užo druhoje pakaleńnie emihrantaŭ, što naradzilasia na zachadzie, maje poŭnyja hramadzianskija pravy i zdoľnaje brać čynny ŭdziel u hramadzkim i palityčnym žyćci hetaj krajiny. Kali jany ŭzhadavanyja ŭ bielaruskim duchu, svajimi kantaktami i vysilkami jany b mahli prasoŭvać bielaruskija intaresy. Nažaľ, u adroźnieńnie ad tych ža paliakaŭ, siarod bielarusaŭ takich praktyčna niama.

**BR:** *Na Vašu dumku, jakaja rolia advodzicca bielaruskaj movie ŭ bielaruskim hramadztvie i ci vyžyvuć bielarusy jak nacyja biez bielaruskaj movy?*

**a.AN:** Pravodziačy analiohiju z sytuacyjaj na brytanskich vyspach, možna źviarnucca da prykladu valijcaŭ, jakija taksama razmaŭliajuć pieravažna pa-anhieľsku, asabliva ŭ paŭdzionnaj Valiji, ci da prykladu irlandcaŭ, jakija ŭ svajoj čystaj baľšyni havorać pa-anhieľsku. Heta sumna, ale heta tutejšyja realii. Jak bielarus ja b nie chacieŭ, kab Bielaruś u taki sposab prypadabnialasia da Valiji ci Irlandyji. Ale ŭžo ciapier sytuacyja raźvivajecca mienavita ŭ takim kirunku. Jość šmat śviadomych bielarusaŭ, jakija havorać tolki pa-rasiejsku i nie adčuvajuć patreby va užyvańni bielaruskaj movy. Mnie heta sumna i baliuča jak čalavieku. Ja b chacieŭ, kab bielarusy usio-tki viedali i liubili svaju pryhožuju movu. Biez svajoj movy bielarusam budzie ciažka vyžyć jak nacyji, bo nacyjanaľnaja śviadomaść u Bielarusi jašče slabaja. Bielarusy musiać uśviadomić, što bielaruskaja mova jość vialikim duchoŭnym skarbam, jaki prapadaje.

**BR**: *Jak Vy aceńvajecie bielaruskuju nacyjanaľnuju identyčnaść ciaham apošnich dvaccaci hadoŭ?*

**a.AN:** Da atrymańnia niezaliežnaści Bielaruśsiu možna bylo kazać pra slabuju nacyjanaľnuju identyčnaść bielarusau, dy i za niezaliežnaść jany zmahalisia mienš, čym tyja ž prybaltyjskija narody. I choć isnavaŭ nacyjanaľny ruch, jon nia byŭ nastoľki masavym, kab padšturchnuć hramadztva da radykalnych źmienaŭ. I choć byli liudzi, jak Nil Hilevič ci Hienadź Buraŭkin, jakim baliela serca za bielaruskuju spravu, bolšaść bielarusau byla abyjakavaj da nacyjanaľnaha pytańnia. Z 1991 sytuacyja źmianilasia i ŭ pieršyja try hady niezaliežnaści bylo zrobliena vieľmi šmat. Tady šmat liudziej, asabliva siarod moladzi, byli poŭnyja entuzijazmu, ale hety peryjad tryvaŭ toľki 3-4 hady, čaho bylo dastatkova toľki, kab zaklaści pačatki dzielia daliejšaj dziejnaści. Pry hetym kali paraŭnoŭvać z prybaltyjskimi krajinami, to u 1991 hodzie Bielarus toľki pačynala svoj šliach u hetym kirunku, bo nieľha zabyvacca, što Bielarus byla najbolš rusyfikavanaj savieckaj respublikaj u eurapejskaj

častcy Savieckaha Sajuzu. Z prychodam Lukašenki sytuacyja źmianilasia, ale jašče niedzie da 2000 hodu bielaruskaj movy bylo vieľmi šmat. Najpierš heta pytańnie školaŭ – ludzi zazvyčaj zadajuć sabie pytańnie, kudy ź bielaruskaj movaj pojdzie jich dzicia, uvažajučy, što z rasiejskaj jamu adčyniajucca dźviery ŭ śviet. Ale hetkaje ujaŭlieńnie jość pamylkovym. Zachady ciapierašnich uladaŭ, nakiravanyja na rusyfikacyju krajiny, adbivajucca na staŭleńni liudziej, i asabliva moladzi da svajoj movy. Ja padziŭliaju tuju častku moladzi, jakija niahliedziačy na ŭsio heta dajšli da bielaruskaści.

Varta zaznačyć, što dośvied malych i siarednich eurapejskich nacyjaŭ – narvescaŭ, datčanaŭ, halandcaŭ – pakazvaje, što liudzi mohuć svabodna valodać dźviuma-tryma movami, ale nie pakidać svajoj. U nas ža čamuści uvažajecca, što treba pakinuć svaju movu, kab dasiahnuć liepšych perspektyvaŭ u žyćci. Hetkaja zašoranaść nia jość vinoj ciapierašnich bielarusaŭ, ale vynikam spačatku rasiejskaj imperskaj, a potym i savieckaj palityki datyčna niekaľkich pakalieńniaŭ bielarusaŭ. Pry hetym, u bielarusaŭ byla zaŭsiody palityčnaja pasyŭnaść. Jana zastalasia i dziakujučy tamu my majem takuju sytuacyju u krajinie.

**BR**: *Ci vierycie, što sionniašnija bielarusy uśviadomili, što jany bielarusy?*

**a.AN**: Hliedziačy na maladoje pakalieńnie, možna pabačyć roznyja hrupy liudziej. Ale najaŭnaść niezaliežnaj Respubliki Bielaruś uvajšla ŭ śviadomaść liudziej. Maladoje pakaleńnie naradzilasia ŭžo ŭ niezaliežnaj Bielarusi i nia viedaje, čym byla savieckaja ŭlada. Tamu žyćcio samo saboj robić svaju spravu. Tamu choć čalaviek i budzie razmaŭliać pa-rasiejsku, jon budzie viedać i ŭśviedamliać, što jon bielarus. Faktyčna hetuju sytuacyju mozna acharaktaryzavać jak hramadzianskuju bielarusizacyju. A za hetuju niezaliežnuju Respubliku Bielaruś navat Lukašenka budzie trymacca rukami i nahami, bo kali Bielaruś stanie pravincyjaj Rasieji, heta budzie aznačać kaniec jahonaj palityčnaj karjery. Tamu isnavańnie niezaliežnaj bielaruskaj dziaržavy jość vializnym dasiahnieńniem, mocnym kansalidujučym faktaram, ale ŭ toj samy čas prajavaj slaboj nacyjanaľnaj identyčnaści. Pryviazka hetaj identyčnaści da bielaruskaj movy i nacyjanaľnaj kultury jašče nie adbylasia, a bieź jaje niemahčymy pierachod ad hramadzianskaj da nacyjanaľnaj bielaruskaj identyčnaści. Mnie vieľmi chočacca vieryć u aptymistyčnuju budučyniu dlia našaha narodu.

*Razmaŭliala* ***Hanna Vasilievič***

# 30-тая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі

З таго часу калі адбылася 1-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі 5-6 ліпеня 1952 году, прайшло 60 гадоў, і сёлетняя юбілейная 30-я Сустрэча яскрава сьведчыць пра тое, што распачатая традыцыя працягваецца і да сёньня. Імкліва бяжыць няўмольны час, зьмяняюцца пакаленьні, але амаль кожныя два гады беларусы Канады і ЗША зьбіраюцца разам, каб пабачыцца зь сябрамі, абмяняцца навінамі, пагаварыць пра будучыню беларускага руху на амэрыканскім кантынэнце.

Ініцыятыва правядзеньня форумаў належыць вядомаму беларускаму дзеячу Вінцуку Жук-Грышкевічу, яе падтрымалі і амэрыканскія беларусы. Першая Сустрэча адбывалася непадалёку ад Ніягарскага вадаспаду, у маляўнічым рэсорце над Вэлянд-каналам. Афіцыйнымі арганізатарамі яе былі Згуртаваньне беларусаў Канады(ЗБК) і Згуртаваньне беларускай моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА). Апошнюю з цягам часу замяніла Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА). Так што сёлетнюю Сустрэчу, як і бальшыню папярэдніх, ладзілі разам ЗБК і БАЗА. Але вядома, што большы цяжар падрыхтоўкі ляжаў на канадыйскіх беларусах, якія выступалі ў якасьці гаспадароў. Галоўны беларускі грамадзкі цэнтар Канады знаходзіцца ў Таронта і там гэтыя падзеі адбываліся неаднаразова. Так, 2-я Сустрэча ў верасьні 1956 году праходзіла менавіта ў Таронта. Адметна, што сёлетняя, юбілейная, Сустрэча была арганізаваная таксама ў Таронта ўжо новай беларускай эміграцыяй, якая сьмела ўзяла на сябе гэты нялёгкі абавязак.

Сустрэча адбывалася ў Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры на St. Clarens Ave 524, дзе месьціцца Беларуская царква Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ і грамадзкая заля.

Адкрыла Сустрэчу старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. Валянціна Шаўчэнка. Сп. Валянціна ў сваёй прачулай, сардэчнай прамове прывітала гасьцей ад імя асноўнага арганізатара форуму і пажадала ўдзельнікам пасьпяховай працы, добрых сяброўскіх кантактаў і прыемнага побыту на канадыйскай зямлі. Яна адзначыла, што мэтай сустрэчы ёсьць аб'яднаньне ўсіх беларусаў, незалежна ад таго, ці зьяўляюцца яны сябрамі той ці іншай арганізацыі.

Далей Сьвята распачалося Малітваю за Беларускі народ, якую правёў Уладыка Сьвятаслаў – Першагерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. З прывітальным словам да прысутных зьвярнулася старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп. Івонка Сурвілла. Сп. Івонка згадала пра свой эмігранцкі з маленства лёс і пра тое, як яна вельмі рана зразумела ролю, якая прыпадае эмігрантам з паняволеных краінаў: “Роля наша была калісь і фактычна дасюль не зьмянілася – быць голасам анямелага народу, як яго назваў Васіль Быкаў. У заходнім сьвеце мы здольныя адрадзіць страчанае. Мы здольныя паказаць сьвету, які мы працавіты і таленавіты народ... Здабываць прыяцеляў для Беларусі, інфармаваць сьвет пра нашую культуру, адкрываць сьвету сапраўдную Беларусь – гэта ўважаю галоўнай роляю беларускай дыяспары. Абавязкам кожнага з нас ёсьць паказаць сьвету, што Беларусь, пра якую распавядаюць СМІ, гэта не сапраўдная Беларусь, гэта акупаваная тэрыторыя пад ярмом адной сям'і і яе сілавых, наменклятурных і чужацкіх паплечнікаў.

Прыйдзе час, калі роля наша зьменіцца, калі мы зможам перадаць нашаму народу ўсё найлепшае, чаму навучыліся у краінах, дзе жывем... Нашай роляю тады будзе адкрыць Сьвет беларускаму народу, пра які ён так мала ведае...” На завяршэньне свайго выступу сп. Івонка зьвярнулася да ўдзельнікаў Сустрэчы з заклікам памятаць пра свой абавязак: “Кожная дыяспара ў сьвеце клапоціцца пра свой пакінуты край. Нашым абавязкам ёсьць дагледзець, каб пакінуты намі край ня стаўся страчаным краем!”

Старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Ганна Сурмач падкрэсьліла асаблівую значнасьць Сустрэчаў у жыцьці беларускай эміграцыі і назвала гэтую традыцыю адным з найбольш важных дасягненьняў беларускай прысутнасьці ў Паўночнай Амэрыцы, якая займе адметнае месца ў гісторыі беларускай дыяспары ў сьвеце. Яна таксама ўзгадала пра тое, што 18 гадоў таму ў 1994 годзе была прысутнаю ў гэтай залі на чарговай Сустрэчы і вітала яе ўдзельнікаў як старшыня Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”. Але так сталася, што і ёй давялося самой стацца эмігранткаю,

і цяпер яна прывітала гасьцей ўжо ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі — БНФ сп. Зянон Пазьняк таксама прыехаў на Сустрэчу і выступіў са зьмястоўным прывітальным словам.

Далей прамаўлялі лідэры рэгіянальных беларускіх суполак ЗША і Канады. Сп. Пётра Мурзёнак прывітаў удзельнікаў Сустрэчы ад імя Аддзелу ЗБК ў Атаве. Музыкант Хведар Паўлавец перадаў прывітаньне з Лас Вегасу ад сябе і ад знакамітага беларускага гімнаста Віталя Шчэрбы. Сп. Вячка Станкевіч выказаў пажаданьне плённай працы ўдзельнікам форуму ад імя Фундацыі Крэчэўскага зь Нью-Ёрку, Ала Кузьміцкая прывітала прысутных ад беларусаў са штату Нью-Джэрзы (ЗША). Старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА з Нью-Ёрку сп. Тацьцяна Красоўская распавяла пра дзейнасьць нью-ёрскіх беларусаў у справе захаваньня і падтрымкі беларускай культуры на эміграцыі.

Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» даслала пісьмовае прывітаньне ўдзельнікам Сустрэчы, зь ягоным зьместам прысутных пазнаёміла добра вядомая ў Беларусі і ў замежжы пісьменніца Вольга Іпатава.

Быў зачытаны прывітальны ліст ад прэм’ер-міністра правінцыі Антарыё сп. Далтана МакГінты. Грамадзкая заля была прыгожа ўбраная, паўз сьценаў былі арганізаваны выставы мастацкіх твораў, кнігаў, сувеніраў. Дэманстраваліся мастацкія творы Алены Лапко, Аўгені Шаўчэнкі, сясцёр Паліны і Яны Клімавых, Паўліны і Івонкі Сурвіллаў, Ксені Капыткі. Свой асобны куточак заняла выстава вядомай мастачкі-вышывальшчыцы Ірыны Варабей. Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага зь Нью-Ёрку прадставіў сваю калекцыю ранейшых беларускіх эміграцыйных выданьняў. Асобна варта згадаць пра творы вядомага ў Беларусі мастака Яўгена Шатохіна, якія былі давезены зь Нью-Ёрку. Мастак там рабіў персанальную выставу і цяпер Бруклінскі аддзел БАЗА прыкладае намаганьні, каб сабраць сродкі на помнік у Беларусі гэтаму заўчасна памерламу на пачатку году выдатнаму творцу, адданаму беларускаму патрыёту і грамадзкаму дзеячу. Не пакінулі абыякавымі прысутных рамантычныя, яркія творы мастака з Вільні Алега Аблажэя. Шмат што з экспанатаў выставаў можна было і набыць. Асабліва зацікавіў многіх зроблены Галоўнаю управаю БАЗА альбом пра папярэднюю 29-ю Сустрэчу, якая адбывалася ў 2010 годзе ў Саўт Рывэры, яго набывалі на памятку ўдзельнікі той Сустрэчы. На жаль, у напоўненай праграме ня стала вольнага часу на прэзэнтацыю выставаў, і прысутныя мусілі самастойна арыентавацца ў экспанатах і атрымліваць інфармацыю ад непасрэдна прысутных аўтараў твораў ці адказных асобаў.

На другі дзень удзельнікі Сустрэчы ажыцьцявілі пілігрымку да Беларускага Памятнага Крыжа ў мэмарыяльным канадыйскім парку ў Мідляндзе, штат Антарыё, недзе 200 км. ад Таронта. Дабіраліся туды на замоўленым аўтобусе, а шмат хто і на ўласных “калёсах”.

На маляўнічым лясістым узгорку над возерам Гурон, на плошчы некалькі гектараў разьмяшчаецца мемарыяльны парк Martyrs’ Shrine - Пакланеньня Мучанікам, забітым там за хрысьціянскую веру манахам-місіянэрам і індзейцам-хрысьціянам. На самай гары стаіць прыгожы касьцёл, а вакол разьмешчаныя крыжы, алтары, скульптуры і памятныя знакі розных нацыянальнасьцяў. Думка пра устаноўку там і Беларускага Крыжа высьпявала доўга, і нарэшце ён быў зроблены і ўстаноўлены ў 1988 годзе на славу Богу і Бацькаўшчыне, падзея была прымеркавана да адзначанага тады 1000-годдзя хрысьціянства ў Беларусі. Высьвячэньне Крыжа адбылося 5 верасьня 1988 году пад час 18-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Пілігрымка да Крыжа сталася важнаю часткаю праграмы і сёлетняй Сустрэчы.



Пілігрымка да Беларускага памятнага крыжа

Пачалася ўрачыстасьць з малебену, які адслужыў Уладыка Сьвятаслаў. Вандроўнікі памаліліся за беларускі народ, за памяць пра ягоных пакутнікаў, што аддалі жыцьці за Бацькаўшчыну, і за бязьвінных ахвяраў таталітарных рэжымаў. Разам прасьпявалі “Магутны Божа”, наш гімн гучэў там асабліва ўрачыста. Згадалася, што на асьвячэньні Крыжа некалі там была прысутнаю і аўтарка гімну паэтка Натальля Арсеньнева. Амаль пры кожным з нацыянальных манумэнтаў пастаўленыя сталы, лаўкі, каб можна было прысесьці, памаліцца, падумаць у цішыні ці, наадварот, правесьці нейкую грамадзкую імпрэзу. Якраз так і зрабілі гаспадары Сустрэчы і заплянавалі там наступную частку праграмы. Такім чынам, на ўзлоньні прыроды далей адбылася прэзэнтацыя беларускіх кніжак, выдадзеных у эміграцыі і на Бацькаўшчыне пра эміграцыю. Прэзентацыя была прымеркавана да 130-й гадавіны ад нараджэньня клясыкаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа

Увечары пасьля вяртаньня з Мідлянду фальклёрны тэатар “Яваровы людзі” пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай запрасіў гасьцей на сустрэчу ў грамадзкую залю. Там артысты паказалі прэм’еру мюзікалу ўласнага аўтарства “То-То-То!” па матывах беларускага фальклёру ў 2-х дзеях з прыгожымі дэкарацыямі і касьцюмамі..

Душою гурта “Яваровы людзі” і ягоным мастацкім кіраўніком зьяўляецца сп. Віялета Кавалёва, колішняя сяброўка “Талакі”. Віялета разам з Валянцінаю Шаўчэнка і дачкою Камілаю былі рэжысэрамі-пастаноўшчыкамі спэктаклю.

Трэба сказаць, што і гэтая другая ў рамках Сустрэчы мастацкая праграма таксама вельмі ўразіла прысутных. Усё было зроблена на добрым мастацкім узроўні. Мы пабачылі, што канадыйскія беларусы маюць шмат талентаў – пісьменьніцкія і акторскія здольнасьці.

Пасля спэктаклю фольк-гурт “Яваровы людзі” зладзіў для гледачоў вячоркі з танцамі ды сьпевамі. Віялета Кавалёва разам са Зьміцерам Леановічам элегантна вучылі прысутных танцаваць беларускія народныя танцы. Да іх далучыліся астатнія сябры гурта а потым і ўсе ахвочыя да танцаў госьці, так што напрыканцы вечара танчыла амаль уся заля.

Сьвята закончылася на высокім эмацыянальным уздыме, але было і сумна, што так хутка праляцелі гэтыя прыемныя і плённыя дні ў прыветным коле сваіх суродзічаў, блізкіх

сяброў і паплечнікаў. Назаўтра мы пакідалі Таронта з надзеяю на новыя сустрэчы з нашымі канадыйскімі беларусамі. Мы запрасілі іх прыехаць у Нью-Ёрк з мастацкаю праграмаю і спадзяемся, што яны будуць нашымі гасьцямі раней чым праз два гады.

Ганна Сурмач

# Госьці з Беласточчыны

12 жніўня ў нядзелю ў грамадзка-царкоўнай залі на Атлянтык Авэню 401 было амаль цесна, што было так нязвыкла для часу летніх адпачынкаў, калі беларускае грамадзкае жыцьцё ў Нью-Ёрку заціхае да верасьня. Сярод прысутных пераважала моладзь Нью-Ёркскія беларусы, як маладыя, так і старэйшыя прыйшлі на сустрэчу з гасьцямі з Беласточчыны.

Тыя, хто чытае газэту "Беларус", памятаюць, што ў апошнім нумары газэты была пададзена інфармацыя пра тое, як ў Беластоку быў урачыста адзначаны 15-гадовы юбілей навучаньня беларускай мовы ў тамтэйшых школах. Ладзіла сьвята Аб'яднаньне ў карысьць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, якое скарочана там называюць АБ-БА. З нагоды юбілею і з мэтаю падтрымкі дзейнасьці АБ-БА і заахвочваньня дзяцей да вывучэньня сваёй мовы Бруклінскі аддзел БАЗА запрасіў групу моладзі і настаўнікаў ад АБ-БА на візыту ў Нью-Ёрк. Групу ў складзе 12 чалавек

1 жніўня іх сустрэлі на лётнішчы прадстаўнікі БАЗА і ўзялі на сябе ўсе клопаты па іх уладкаваньню і арганізацыі іх побыту і азнаямленьня з жыцьцём амэрыканскіх беларусаў.

Госьці прыехалі ў Нью – Ёрк не толькі паглядзець "сталіцу сьвету", але, найперш, паказаць амэрыканскім беларусам тое, чаму яны навучыліся на ўроках беларускай мовы. І выглядала гэта ўражліва. Цудоўнае маўленьне, глыбокае адчуваньне беларускай культурнай традыцыі. Праграма іх выступу ў Нью-Ёрку складалася зь дзьвюх частак. У першай прагучала кампазіцыя з вершаў Ларысы Геніюш, чый лёс зьвязаны з тымі мясьцінамі, якія зараз непасрэдна мяжуюць з Беласточчынаю, але раней складалі адно цэлае.

Маладыя людзі здолелі неяк па свойму асэнсаваць і падаць у новым гучаньні вядомыя нам словы паэткі.

Асабліва ўразіла прысутных другая частка праграмы, якая ёсьць цалкам творчым здабыткам гэтага своеасаблівага тэатральнага калектыву пад кіраўніцтвам настаўніцы Аліны Ваўранюк і старшыні АБ-БА Басі Пякарскай.

Абедзьве гэтыя жанчыны, дзеці якіх таксама удзельнічалі ў праграме, уклалі шмат душы , часу і ахвярнасьці ў працу з дзецьмі і моладзьдзю дзеля таго, каб выхаваць іх ва ўлоньні сваёй роднай культуры. Гледзячы на гэтых маладых людзей бачыш адразу, што гэта сапраўдная беларуская моладзь, а не артысты, якія іграюць свае ролі. Гэты другі праект мае цудоўную паэтычную, па-беларуску мілагучную назву "Ой, даўно, даўно...". Яго аснову складаюць па мастацку пададзеныя аповяды пра жыцьцёвыя лёсы людзей, якія былі сабраныя самімі школьнікамі сярод сваіх блізкіх, сяброў і знаёмых. Гэта сваеасаблівая праўдзівая гісторыя – драматычная, гераічная, а часам і трагічная, беластоцкага беларускага люду, які жыве на памежжы двух розных сусьветаў, дзе межы рэжуць па жывому, дзе ніколі няма спакою, дзе адно пакаленьне магло жыць у некалькі дзяржавах, не пакідаючы сваёй хаты. Тут улады мяняліся па некалькі разоў, але людзі жылі па-свойму, захоўваючы сваё роднае з пакаленьня ў пакаленьне. І гэтая сувязь не перапыненая да сёньня, бо ёсьць моладзь, якая падрастае на сваёй нацыянальнай глебе і разьвівае сваю культуру далей. Сьлёзы наварочваліся, слухаючы гэтыя жывыя аповяды, бо кожны з нас – беларусаў пазнаваў у іх абразкі з уласнага жыцьця.

Асобна варта сказаць пра цудоўнае выкананьне беларускіх народных песьняў, якім суправаджалася выступленьне. Апранутыя ў ільняное ўбраньне дзяўчаты і хлопцы і іхныя аўтэнтычныя сьпевы рабілі ўражаньне рэал Вільня,5.08.2012г. ьнасьці таго жыцьця, якое бруіла ў беларускіх вёсках на Беласточчыне.

Удзячныя слухачы былі глыбока узрушаныя пабачаным і цёпла віталі артыстаў. Кіраўнічкі групы сп.сп. Пякарская і Ваўранюк са свайго боку віталі прысутных і распавялі пра іх намаганьні захаваць беларускасьць у Беластоцкім краі. Прывітаньне гасьцям даслалі Старшыня Рады БНР сп. Івонка Сурвілла з Канады і дырэктар Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва сп. Вітаўт Кіпель з Нью-Ёрку, які падтрымлівае даўнія сувязі зь беластоцкімі беларусамі. Са словамі прывітаньня выступілі сп. Зянон Пазьняк і айцец Леанід Акаловіч, які дабраславіў моладзь на далейшыя посьпехі у іх працы дзеля захаваньня беларускасьці ў Польшчы.



Прадстаўляла гасьцей сп. Ала Орса Рамана, яна была галоўнай адказнаю асобаю за прыём дэлегацыі і зрабіла ўсё магчымае, каб ім пачувалася ў Амэрыцы ўтульна і цікава. Сп. Ала згадала пра тое, што яе сяброўства з беластоцкімі беларусамі пачалося напрыканцы 80-х гадоў, калі сёньняшнія госьці яшчэ не нарадзіліся, а іх бацькі былі маладымі. Тады ўпяршыню ў Беласток прыехала танцавальная група "Васілёк" зь Нью-Ёрку. І тут неспадзяванкаю для прысутных сталася тое, што сп. Ала прадставіла гасьцей у беларускіх нацыянальных строях, якія аказаліся былымі танцорамі "Васілька". Такая вось атрымалася сустрэча пакаленьняў.

На завяршэньне сустрэчы малодшым гасьцям былі падараваныя сувэнірныя кубкі ад БАЗА, а старэйшым – Беларуска- ангельскія слоўнікі.

Выступ ў Нью-Ёрку быў апошнім у праграме візыту. Перад гэтым госьці выступілі 4 жніўня на Беларускім фестывалі ў Саўт Рывэры, дзе паказалі музычны спектакль "Цацачная крама" аўтарства Леаніда Дранько-Майсюка, музыка Ганны Бабік. Спектакль меў там вялікі посьпех і беластоцкую моладзь віталі вельмі сардэчна. На наступны дзень – 5 жніўня артысты прыехалі ў Гайленд Парк, дзе выступілі ў грамадзка-царкоўнай залі Беларускай царквы і таксама былі прыняты з цеплынёй і ўдзячнасьцю.

Прыезд гасьцей з Беластоку стаўся адметнаю падзеяю ў грамадзкім жыцьці беларусаў у Амэрыцы. Як бы падыхнула ветрыкам з Бацькаўшчыны, якая так блізка ад Беластоку, але якая таксама жыве і там высілкамі гэтых цудоўных

людзей. Няма сумневу, што ад гэтай сустрэчы застануцца ў нас самыя добрыя ўспаміны, завяжуцца новыя кантакты і плённае далейшае супрацоўніцтва.

Ганна Сурмач

## С П О Р Т

### Змагарная Вікторыя

***ледзь не перамагла на слаўным турніры US Open***

У фінале турніру беларуская тэнісная зорка Вікторыя Азаранка прайграла з Сэрэнай Ўільямс (ЗША) утох сэтах 2:6, 6:2, 5:7.

Вікторыя ўчыстую прайграла першы сэт, бліскуча выйграла другі, узяўшы дзве падачы. У трэцім ужо вяла 5:3, але нарэшце саступіла агрэсіўнай атацы Амэрыканкі.

Матч працягваўся 2 гадзіны 18 хвілін.

Сэрэна Ўільямс стала пераможцай US Open, але Вікторыя застаецца першай ракеткай сьвету

**Крыніца:** *Наша Ніва*, 10 верасьня 2012



### 12 мэдалёў

***здабылі беларускія спартоўцы на Летніх Алімпійскіх Гульнях 2012 году ў Лёндане***

**ЗОЛАТА:**
* Надзея Астапчук (лёгкая атлетыка, штурханьне ядра)
* Максім Мірны / Вікторыя Азаранка (тэніс, мікст),
* Сяргей Мартынаў (стральба)

**СРЭБРА:**
* два мэдалі Аляксандры Герасімені (плаваньне);
* каноэ-двойка братоў Андрэя, Аляксандра Багдановічаў
* байдарка-двойка (Раман Пятрушэнка, Вадзім Махнеў)
* Групавая рытмічная жаночая гімнастыка

**БРОНЗА**:
* Марына Шкірманкова (цяжкая атлетыка)
* Ірына Кулеша (цяжкая атлетыка)
* Вікторыя Азаранка (тэніс)
* байдарка-чацьвёрка (Ірына Памелава, Надзея Папок, Вольга Худзенка і Марына Палтаран)
* Любоў Чаркашына - мастацкая гімнастыка.

## Сэнсацыя Лігі Чэмпіёнаў

***БАТЭ Барысаў - "Баварыя Мюнхэн" - 3:1***

На менскім стадыёне ""Дынама" адбылася сустрэча БАТЭ з мюнхенскай "Баварыяй" у рамках 2-га туру групавой стадыі Лігі чэмпіёнаў.

У беларусаў галы забілі Аляксандр Паўлаў (23), Віталь Радзівонаў (78), Рэнан Брэсан (94). У браму барысаўчан гол забіў Франк Рыберы (91).

Склады камандаў:

БАТЭ — Гарбуноў, Ліхтаровіч (капітан), Валадзько, Глеб, Паўлаў, Бардачоў, Радзівонаў, Філіпенка, Сіміч, Аляхновіч, Палякоў. У запасе: Гутар, Юрэвіч, Брэсан, Мазалеўскі, Сівакоў, Рудзік, Васілюк. Папярэджаньне атрымаў Паўлаў (22).

"Баварыя" — Ноер, Дантэ, Рыберы, Хаві Марцінес, Манджукіч, Боатэнг, Лам (капітан), Мюлер, Бадштубер, Луіс Густава, Кроас. У запасе: Штарке, Ван Бёйтэн, Шакірф, Рафінья, Пізаро, Швайнштайгер, Цімашук.

На гульні прысутнічала прыкладна 1.200 нямецкіх заўзятараў

**Крыніца:** Радыё Рацыя, 2 кастрычніка 2012



**КРЫВІЯ - Культурна-асьветніцкая газэта**
Выданьне беларускай дыяспары ў Чэхіі
MK ČR E 16919
РЭДАКЦЫЯ
Юрка Станкевіч
Ганна Васілевіч
Адрас рэдакцыі: Časopis KRYVIJA
ul. Malešická 553/65, 108 00 Praha 10